

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. к. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№ 501 Кастрычнік 2004г.
Год выданьня 55

*7 верасьня Аляксандар Лукашэнка абвясьціў пра правядзеньне рэфэрэндуму, каб мець магчымасьць застацца на пасадзе прэзыдэнта без абмежаваньня тэрмінаў. 9 верасьня прэсавы сакратар Дзярждэпартамэнту ЗША Рычард Баўчар зрабіў афіцыйную заяву з нагоды абвяшчэньня рэфэрэндуму Аляксандрам Лукашэнкам.*

## Заява Дзярждэпартамэнту ЗША пра рэфэрэндум у Беларусі

Нажаль, бясконцыя парушэньні ўрадам Беларусі правоў чалавека і дэмакратыі ізалявалі Беларусь ад сусьветнай супольнасьці замест таго, каб прывесьці яе да пачэснага месца сярод дэмакратычных краін Эўропы, якое яна мусіць мець па праве. Улічваючы гэты кепскі досьвед мінулага, указ прэзыдэнта Лукашэнкі аб абвяшчэньні рэфэрэндуму з мэтай скасаваць усталяваныя абмежаваньні колькасьці прэзыдэнцкіх тэрмінаў і дазволіць яму зноў удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 г. выклікае сур'ёзныя сумненьні наконт таго, ці будуць яго вынікі вольным і справядлівым чынам адлюстроўваць погляды беларускага народу. Мы паўтараем наш заклік да ўраду Беларусі гарантаваць беларускаму народу, што абмеркаваньне, галасаваньне і падлік галасоў будуць адбывацца ў адпаведнасьці зь міжнароднымі стандартамі – як 17 кастрычніка, так і ў будучыні – і неадкладна зрабіць крокі па выкананьні Беларусьсю сваіх міжнародных абавязацельстваў у галіне дэмакратыі і правоў чалавека.

Мы будзем разглядаць любы рэфэрэндум, які не адпавядае міжнародным дэмакратычным стандартам, як чарговую спробу маніпуляцыі дэмакратычнымі працэдурамі і беларускай Канстытуцыяй у супярэчнасьці з дэмакратычнымі прынцыпамі.

Заганныя выбары і заганны рэфэрэндум паслужаць толькі ізаляцыі Беларусі ад яе суседзяў і сяброў, такіх як Злучаныя Штаты Амэрыкі, і прымусяць нас перагледзець нашы адносіны з беларускім кіраўніцтвам і палітыку ў дачыненьні да яго.

Пераклад на беларускую мову: аддзел інфармацыі, культуры, адукацыі Амбасады ЗША ў Беларусі – *minsk.usembassy.gov/bel*.

## Сустрэча Беларусаў Эўропы

У Празе 28-29 жніўня 2004 году адбылася Першая Сустрэча Беларусаў Эўропы. У выніку двухдзённай працы ўдзельнікамі Сустрэчы створаны Дэмакратычны Форум беларусаў Эўропы дзеля:

- наладжваньня сталых сувязяў паміж беларускімі арганізацыямі ў розных эўрапейскіх краінах, абмену досьведам, аказаньня ўзаемнае дапамогі й падтрымкі ды спрыяньня іхнай інтэграцыі ў аб'еднанай Эўропе.
- дапамогі беларускай нацыянальнай супольнасьці ў Эўропе захаваць сваю нацыянальную ідэнтычнасьць, разьвіваць сваю культуру і мову, якія сёньня ня маюць падтрымкі ў самой Беларусі, а беларуская мова знаходзіцца на мяжы зьнікненьня.
- прадстаўніцтва інтарэсаў беларускай эўрапейскай супольнасьці перад структурамі Эўразьвязу, бо ўлады Рэспублікі Беларусь сёньня ня здольныя выконваць гэтую функцыю. Краіна, якая гістарычна належыць да Эўропы, сёньня з-за палітычнай сытуацыі аказалася па-за межамі эўрапейскай супольнасьці
- аказаньня падтрымкі працэсам дэмакратызацыі Беларусі, інтэграцыі краіны ў эўрапейскую супольнасьць народаў.

Для выкананьня гэтых мэтаў і падрыхтоўкі чарговых паседжаньняў Форуму ўдзельнікі Сустрэчы абралі выканаўчы орган Форуму – Каардынацыйную Раду беларусаў Эўропы ў складзе:

Юрка Станкевіч (Чэхія) - старшыня
Ганна Сурмач (Чэхія) - намесьнік
Сяргей Скаруліс (Чэхія) - намесьнік
Генадзь Бураўкін(Беларусь)
Алена Макоўская (Беларусь)
Мікола Маркевіч (Беларусь)
Людміла Карпенка(Нямеччына)
Алена Міхалюк (Вялікабрытанія)
Міхась Андрасюк (Польшча, Беласток)
Аляксандр Ядчанка (Украіна, Львоў)
Вячка Целеш (Латвія)
Маргарыта Астравумава (Эстонія)
Зінаіда Клыга (Эстонія)
Хведар Нюнька (Літва)
Алесь Трусаў(Літва)
Андрэй Рубцоў (Гішпанія)
Ігар Шаховіч (Расея, Калінінград)
Янка Мойсік (Італія)
Натальля Брэль (Бэльгія)

Удзельнікі Сустрэчы даручылі Радзе распрацаваць Статуты, якія будуць рэгляментаваць працу Форуму і Рады, і прадставіць іх на зацьверджаньне наступнага паседжаньня Форуму, дату і месца якога даручана вызначыць Каардынацыйнай Радзе.

Запрашаем беларускія суполкі ў Эўропе, а таксама асобных дзеячаў дасылаць свае прапановы па арганізацыі дзейнасьці Форуму.

Старшыня Каардынацыйнай Рады беларусаў Эўропы Юрка Станкевіч.

Кантакты і інфармацыя:
Email: *jirstan@login.cz*
Tel. *420 737 13 35 63 m.*
*420 2 74 77 13 38*
**Internet-старонка: www.skaryna.cz**




# 26

## Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

У Таронта (Канада) 4-6-га верасьня праходзіла традыцыйная 26-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што вось ужо больш за 50 год зводзіць на некалькі дзён разам актывістаў і сяброў беларускіх арганізацыяў ЗША і Канады. Тэмаю сустрэчы гэтым разам сталі «Праблемы захаваньня мовы, культурных набыткаў і гістарычных каштоўнасьцяў Беларусі». Тэма гэтая ў сьвятле апошніх падзеяў у Беларусі набывае першараднае значэньне. Рэжым Лукашэнкі ад самага свайго ўсталяваньня вядзе пасьлядоўнае вынішчэньне беларускай культуры й выцісканьне беларускай мовы з усіх галінаў грамадзкага жыцьця. У наяўнасьці маем парушэньне элементарных чалавечых правоў грамадзянаў Беларусі. Афіцыйная прапаганда, школьныя падручнікі, дзяржаўныя газэты, радыё і тэлебачаньне ўсяляк абражаюць і прыніжаюць усё нацыянальнае, беларускае, пачынаючы ад мовы й канчаючы нацыянальнымі сымболямі й гістарычнымі датамі. Усё беларускае амаль аўтаматычна атаесамляецца з «нацыяналізмам». Пры гэтым поўную свабоду дзеяньняў і падтрымку маюць расейскі нацыяналізм і праявы антысэмітызму. Абарона правоў беларусаў на сваю культуру, мову і традыцыі арганічна спалучаецца з абаронаю правоў чалавека і змаганьнем за дэмакратыю.

Урачыстае адкрыцьцё Сустрэчы адбылося 4 верасьня ў залі Беларускага Грамадзкага і Рэлігійнага Цэнтру ў Таронта на Сэнт Кларэнс Авэню. Напачатку прагучалі беларускі нацыянальны, канадыйскі й амэрыканскі гімны. Затым Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК ) др. Пётр Мурзёнак прачытаў прывітаньне ад Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы. Сп. Юрка Рапецкі прачытаў прывітаньне ад мэра Таронта. Пасьля з прывітальнаю прамоваю выступіў прадстаўнік уладаў раёну Таронта, дзе знаходзіцца Беларускі цэнтар. З прывітаньнямі Сустрэчы таксама выступілі ганаровы старшыня ЗБК сп. Кастусь Акула, старшыня нью ёркскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка, старшыня ЗБК др. Пётр Мурзёнак, старшыня таронтаўскага аддзелу ЗБК спн. Надзея Дробіна. Сп. Алесь Кот прачытаў прывітаньне ад удзельнікаў Першай Сустрэчы Беларусаў Эўропы, што адбылася ў Празе. Былі зачытаныя іншыя прывітаньні ад асобаў і арганізацыяў, паведамлена аб тэлефанічным прывітаньні амбасадара Рэспублікі Беларусь у Канадзе спн. Ніны Мазай. Прысутныя павіншавалі адную з заснавальнікаў ЗБК, шматгадовую старшыню Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Раісу Жук-Грышкевіч. Затым прысутныя прынялі ўдзел у працы трох круглых сталоў, пад назвамі «Што я магу зрабіць для захаваньня мовы, культуры й гістарычных набыткаў Беларусі»; «Беларуская культура ў БССР: савецкая ці нацыянальная?»; «Захаваньне самасьвядомасьці беларусаў». Вядучымі круглых сталоў, што фактычна сталіся працоўнымі сэсіямі Сустрэчы, былі адпаведна: прафэсар Ватэрлускага Ўнівэрсытэту др. Зіна Гімпелевіч; пісьменьніца, ганаровы акадэмік Міжнароднай акадэміі навук "Эўразія" спн. Вольга Іпатава; Старшыня ЗБК др. Пётр Мурзёнак.

На першым круглым стале разглядаліся праблемы практычнай дзейнасьці й дапамогі ў справе захаваньня мовы, культурных і гістарычных набыткаў беларусаў як на чужыне, так і на Бацькаўшчыне. Актыўны ўдзел у дыскусіі ўзялі спн. сп. Алла Орса-Романо, Алеся Кіпель, Эва Пашкевіч, Серж Трыгубовіч, Юрка Кіпель, Якаў Гутман.

Другі круглы стол засяродзіўся на праблемах пераемнасьці савецкай і пост-савецкай мэнтальнасьці ў беларусаў, якія зусім недастаткова вывучаныя і дасьледаваныя. Шмат людзей, што служаць сёнешняй уладзе ў Беларусі зьяўляюцца дзеячамі савецкай беларускай культуры, што сфармаваліся ў часы БССР. Шэраг выступоўцаў адзначалі няслушнасьць супрацьстаўленьня «савецкае» - «нацыянальнае», але вядучая спн. В. Іпатава падкрэсьліла "правакацыйнасьць", схаваную ў назве, якая, дарэчы, была прапанаваная вядомым філёзафам Уладзімерам Конанам. У дыскусіі прынялі актыўны ўдзел спн.сп. Раіса Жук-Грышкевіч, Галіна Сяргеева, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Руслан

*Працяг на бачыне 5*

# Пікет у Стакгольме

Каля двух дзесяткаў беларусаў у Швэцыі правялі пікет насупраць будынку парлямэнту ў Стакгольме. Удзельнікі акцыі трымалі партрэты зьніклых Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Зьмітра Завадзкага. Мінакам раздавалі інфармацыйныя ўлёткі пра сытуацыю ў Беларусі.

Акцыю падтрымалі сябры швэдзкага парлямэнту – прадстаўніца лібэральнай партыі Сэсылія Вікстрэм, некалькі сябраў сацыял-дэмакратычнай партыі, партыі "зялёных" і журналіст Тобіас Люнгвал.

Сябра беларускай суполкі ў Швэцыі Зьміцер Кузьміцкі паведаміў Радыё Свабода, што наступная акцыя швэдзкіх беларусаў заплянаваная на 17 кастрычніка насупраць будынку беларускай амбасады.

*Радыё Свабода*

# ЗВАРОТ

## да эўрапейскай супольнасьці ўдзельнікаў Першай Сустрэчы Беларусаў Эўропы

Мы, Беларусы, удзельнікі Сустрэчы Беларусаў Эўропы зь Беларусі, Бэльгіі, Вялікае Брытаніі, Гішпаніі, Італіі, Лацьвіі, Летувы, Нямеччыны, Польшчы, Расеі, Украіны, Чэхіі, Швэцыі, Эстоніі, сабраўшыся ў Празе Чэскай 28-29 жніўня 2004 году, зьвяртаемся да дэпутатаў Эўрапейскага Парляманту, прадстаўнікоў эўрапейскіх інстытуцыяў ды ўрадаў краінаў дэмакратычнае Эўропы і іх грамадзян з гэтаю заявaю:

Мы, Беларусы, зьяўляемся прадстаўнікамі нацыі, якая *здаўна належыць да Эўрапейскае супольнасьці і цывілізацыі са сваёй гісторыяй, традыцыямі, культурай ды спрадвечнай мовай.*

Зыходзячы з таго:

што рэжым, які сёньня кіруе ў Беларусі, зьяўляецца антыдэмакратычным і нелегітымным,

што Беларусам у Беларусі адмоўлена ў праве вольнага вырашэньня будучыні сваёй Бацькаўшчыны, мець адукацыю на роднай мове ды выбіраць прадстаўнікоў, якія-б з адказнасьцю і сумленьнем дэмакратычна кіравалі краінаю ды баранілі яе інтарэсы, свабоду і незалежнасьць,

а нутраныя ды зьнешнепалітычныя ініцыятывы рэжыму Аляксандра Лукашэнкі ня могуць быць прызнаныя за адпаведныя закону, асабліва інсцэніроўкі "ўсенародных" галасаваньняў, фальсыфікацыі выбараў ды падпісаньне дамоваў, што вядуць да абмежаваньня сувэрэнітэту і незалежнасьці Рэспублікі Беларусь і яе нэйтралітэту,

маючы за стратэгічную мэту сваёй дзейнасьці інтэграваць Рэспубліку Беларусь у аб'яднаную Эўропу,

мы лічым, што Эўрапейскі Зьвяз павінен заняць актыўную пазыцыю ў дачыненьні да Беларусі ды даць зразумець яе народу, што ён будзе вітаны ў дэмакратычнай Эўропе. Таму мы зьвяртаемся да Вас з просьбаю, каб у межах новае эўрапейскае палітыкі суседзтва (European Neighborhood Policy) ды пляну дзеяньняў у дачыненьні да Беларусі, які зараз узьнікае, былі створаныя як мага больш спрыяльныя ўмовы для падтрымкі незалежных ініцыятываў, распаўсюду непадцэнзурнае інфармацыі, мясцовага самакіраваньня, адукацыйных ды дасьледчых праектаў, якія будуць незалежнымі ад уладаў. Асаблівае значэньне для будучыні мела б адкрыцьцё адукацыйных праектаў і праграмаў абмену ЭЗ для студэнтаў і спэцыялістаў зь Беларусі, якія не залежылі б ад рэжыму й яго інстытуцыяў. Падмуркам для пашырэньня незалежнай інфармацыі пра ЭЗ было б заснаваньне прадстаўніцтва ЭЗ непасрэдна ў Беларусі ды адкрыцьцё незалежных інфармацыйных асяродкаў ЭЗ. Мы вітаем заснаваньне камітэтаў за дэмакратыю ў Беларусі ў нацыянальных парляментах па аналёгіі з чэскім сэнацкім камітэтам, які ўзьнік год таму, а ягоная дзейнасьць эфектыўная й карысная.

Мы заклікаем таксама ўрады й народы дэмакратычнае Эўропы, каб падтрымалі беларускія меншасьці на сваіх тэрыторыях.

Бяручы пад ўвагу сёньняшняе становішча ў Рэспубліцы Беларусь і шматлікую прысутнасьць Беларусаў у краінах Эўрапэйскага Зьвязу, дзеля шчыльнейшых кантактаў і супрацоўніцтва мы ствараем Дэмакратычны Форум Беларусаў Эўропы.

Мы рады, што тут, у Празе, якая ёсьць традыцыйным месцам актыўнасьці беларускіх інтэлектуалаў, дзеячоў культуры і студэнтаў, якія вымушаныя былі пакінуць сваю Бацькаўшчыну ды хавацца ад перасьледу рознага кшталту. Мы рады, што адчуваем тут шматгадовую гасьціннасьць і разуменьне таму, што Чэхі як і іншыя народы Сярэдняе ды Ўсходняе Эўропы самі спазналі таталітарныя рэжымы, калі яны маглі толькі марыць пра грамадзянскія правы, а перспектыва пераменаў здавалася шмат каму малаверагоднай. Сёньня, усяго 15 гадоў пасьля вызваленьня ад тых рэжымаў, гэтыя народы з'яўляюцца паўнапраўнымі сябрамі Эўрапейскага Зьвязу. А гэта дае нам надзею, што яго сябрам стане дэмакратычная Беларусь.

# Беларускі ліпень у Чыкага

## Краявіды Беларусі ў асяродзьдзі хмарачосаў

### Выстава твораў мастака Ізраіля Радунскага

Гэтая вялікая заля-вэстыбюль у самым цэнтры Чыкага добра вядомая ўсім жыхарам горада. Завецца яна Daley Civic Center і займае ўвесь першы паверх высокага будынку чыкагскай мэрыі. Побач – цудоўны сквер са славутай скульптурай Пабла Пікаса "Жанчына"... Тут, у гэтай прэстыжнай залі 2 ліпеня сёлета адкрылася выстава твораў эмігранта зь Беларусі мастака Ізраіля Радунскага "Гармонія сьвятла і колеру", прысьвечаная 75-годзьдзю зь дня яго нараджэньня.

Ізраіль Радунскі нарадзіўся ў Менску, там ён стаў мастаком, на *беларускай зямлі прыйшло да яго* творчае натхненьне. Ён скончыў Менскае мастацкае вучылішча і факультэт графікі Маскоўскага паліграфічнага інстытуту, працаваў у майстэрнях Менскага мастацкага камбінату. Ягоныя жывапісныя карціны, графічныя працы, тэатральныя ды іншыя плякаты экспанаваліся на розных рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных выставах. Двойчы ў Менску былі ягоныя пэрсанальныя выставы. З 1990 году І. Радунскі жыве і працуе ў Амэрыцы.



*Ізраіль Радунскі. Куточак старога Менску. Акварэль.*

Мастакоўская палітра Ізраіля Радунскага вельмі шматгранная і разнастайная. Але перш за ўсё ўвагу аматараў жывапісу прыцягваюць ягоныя пейзажы, напісаныя ў тэхніцы акварэлі. У іх яскравы лірычны пачатак цікава спалучаецца з актыўным аўтарскім запрашэньнем да сумеснага роздуму. З захапленьнем і сумам разам з мастаком глядзім мы на старыя вулкі й куткі Менску, што цудам захаваліся пасьля вайны, але якія не забыліся на тых, хто тут жыў, пакутваў, змагаўся. Вось карціна "Нарач. Старыя хаты", на якой – веліч беларускай прыроды, лірычнай, задуменнай. А вось – "Сьвітанак на Палесьсі", пейзаж, поўны багатых калярыстычных адценьняў... Выдатная гарманічная кампазыцыя вылучае, напрыклад, карціну "Возера Нарач. Раніца", дзе нібы зьліваюцца ў адно пэўныя лякальныя аб'екты і бяскрайняя прастора – возера, лінія далёкага берагу, высокае і бясконца глыбокае неба. У карцінах "Беларускі лес", "Дарога ў лесе" ў агульную лірычную танальнасьць урываюцца нечаканыя каляровыя адценьні, і гэта *ствараe асаблівы радасны настрой*. Многія пейзажы Ізраіля Радунскага вызначаюцца натуральнай прыманлівай дэкаратыўнасьцю, часам нейкай асаблівай казачнасьцю, загадкавасьцю.

Асаблівасьць індывідуальнай манэры мастака бачыцца ў тым, што ён піша і рэальна, і ў той-жа час крыху абагулена, для яго галоўнае – не падрабязнасьці пейзажу, а ягоны настрой, ягоны сэнс: кожны раз гэта своеасаблівае запрашэньне ня толькі паглядзець, але і спыніцца, падумаць, паразважаць. У мастакоўскім сьвятле, каларыстычнай гаме заўсёды адчуваецца нейкая асаблівая цеплыня і шчырасьць. Прычым трэба адзначыць, што шмат выяваў гэтай выставы былі створаныя Ізраілем Радунскім да эміграцыі, калі ён, як і многія ягоныя калегі, вымушаны быў працаваць ва ўмовах пэўнай нарматыўнай эстэтыкі. Стварэньне менавіта такога сьвету тады патрабавала ня толькі наяўнасьць яскравага таленту, але і мужнасьці дзеля поўнай свабоды самавыяўленьня.

Тут, у Амэрыцы, мастак здолеў пераадолець усе псыхалягічныя цяжкасьці і захаваць сябе, сваю індывідуальную творчую манэру. Ён працягвае працаваць ва ўсіх сваіх любімых жанрах і ў рознай тэхніцы. Пейзажы, напісаныя на беразе возера Мічыган, у прыгожых мясьцінах Чыкага і прыгарадаў, прываблівають той-жа ўласьцівай мастаку лірычнасьцю і эмацыянальнасьцю, рытмікай колеру, імкненьнем падкрэсьліць прыгажосьць гэтага, унікальнага і разнастайнага гораду.

Пасьля экспанаваньня ў Daley Civic Center (мэрыя Чыкага) гэта выстава была перанесеная ў вялізны хол акругі Кук (*нешта накшталт раёну штата Ілінойс, дзе знаходзіцца Чыкага*). Адначасова іншыя творы мастака Ізраіля Радунскага дэманстраваліся ў залях бібліятэкі чыкагскага прыгараду Скокі, дзе традыцыйна селяцца многія эмігранты з краінаў былога СССР.

## Цябе не забыць, Беларусь

### Сустрэча беларускага зямляцтва

Эмігранты так званай "апошняй хвалі", што прыехалі зь Беларусі ў апошнія два дзесяцігодзьдзі ў Чыкага, пераважна гэбраі, утварылі тут дабраахвотную грамадзкую арганізацыю – беларускае зямляцтва. Стала добрай традыцыяй у тых, хто прыехаў зь Беларусі, штогод зьбірацца на сустрэчы, дзяліцца сваімі ўспамінамі аб нядаўнім жыцьці на радзіме, прыгадваць маладосьць...

Чарговая такая сустрэча адбылася ў гасьціннай зале чыкагскага ОРТ-інстытуту 11 ліпеня. Адкрываючы ўрачыстасьць, прэзыдэнт беларускага зямляцтва Асацыяцыі "Землякі" Іосіф Кацман прачытаў свой лірычны верш, у якім ён заклікаў усіх прысутных "адкінуць слова "настальгія" і проста ўспомніць Беларусь". Затым быў паказаны спэцыяльны слайдфільм з краявідаў гарадоў і сёлаў Беларусі, цікавых архітэктурных помнікаў, непаўторных лірычных пейзажаў роднай зямлі. Слайды суправаджаліся натхнёнымі радкамі з Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міколы Аўрамчыка, Адама Русака, Ніла Гілевіча, Сяргея Панізьніка. Вершы гучалі ў выкананьні Міры Рапапорт, былой настаўніцы беларускай мовы й літаратуры на Слонімшчыне.

Канцэрт пачаўся выступленьнем сьпевака Марата Віленскага, які выканаў "Маладосьць мая, Беларусь" з рэпэртуару "Песьняроў" і "Менскі вальс" кампазытара Міхася Клейнэра, які жыве зараз у Чыкага. У канцэрце таксама прынялі ўдзел сьпявачкі Галіна Паўлава, Зіта Рыт, Фіра Рэхтман. Выступалі музыкі Ноах Марсэл, Генры Варман, Фаіна Рохленка, Вольга Башкіна. Танчылі майстры бальнага танцу Алена і Алег Машковічы, свае новыя вершы, прысьвечаныя роднай зямлі, прачытала Іда Аўруцкая.

А ў перапынках паміж выступленьнямі й нумарамі канцэртнай праграмы танчылі ўсе: і тыя, каму толькі за пяцьдзесят, і тыя, каму хутка дзевяноста. У гэты вечар у зале панавала атмасфера шчырай дружбы, братэрства, зямляцкай салідарнасьці, непасрэднасьці, шчырасьці, – усяго, чаго яшчэ, нажаль, часам не хапае ў паўсядзённым эміграцкім жыцьці.

## Беларускія напевы гучаць у цэнтры Чыкага

У гэтым горадзе існуе добрая традыцыя: кожны будзённы дзень падчас перапынку на ланч на вялізнай цэнтральнай плошчы, каля славутай скульптуры "Жанчына" Пабла Пікаса, побач з будынкам гарадзкой мэрыі адбываюцца самыя разнастайныя канцэрты. Тут выступаюць сьпевакі й музыкі, хары й аркестры, танцавальныя і фальклёрныя калектывы, рок-групы й джазавыя ансамблі... Праграмы канцэртаў "Under the Picasso", як яны афіцыйна называюцца, адлюстроўваюць шматграннасьць культурнага жыцьця ўсіх этнічных групаў, што захоўваюць многае, характэрнае

*Працяг на бачыне 6*



*На цымбалах іграе Ірына Грыгаровіч.*

# Беларусь за месяц

## Рэфэрэндум прызначаны на 17 кастрычніка

7 верасьня Аляксандар Лукашэнка звярнуўся па ўсіх беларускіх тэлеканалах да беларускага народу: "Паважаныя суайчыньнікі! У адпаведнасьці з Канстытуцыяй нашай дзяржавы я падпісаў указ аб правядзеньні ўсенароднага рэфэрэндуму. Ён адбудзецца 17 кастрычніка". Мяркуй, сумяшчэньне плебісыту з парлямэнцкімі выбарамі дасьць мажлівасьць ашчадзіць сродкі. Пытаньне, што выносіцца на рэфэрэндум тычыцца зьняцьця абмежаваньняў на колькасьць прэзыдэнцкіх тэрмінаў для аднэй асобы. Рэфэрэндум, трэба сказаць, чакаўся, тым больш пасьля трагічных падзеяў у паўночнаасецінскім Бяслане. Напярэдадні пра яго непазьбежнасьць заявілі дэпутат і трохразовы алімпійскі чэмпіён Уладзімер Парфяновіч і экс-міністар замежных справаў Пятро Краўчанка.

У выступе Лукашэнкі 7 верасьня чамусьці запомнілася пра сасуд, які ён нясе перад сабою. "Усе гэтыя гады я з хваляваньнем нясу гэты сьветлы, хрустальны сасуд, імя якому Беларусь. Нясу, баючыся яго выраніць".

На наступны дзень мітычная сацыялягічная кампанія "Экаом" апавесьціла грамадзян, паводле апошніх сацыялягічных зьвестак, каб цяпер адбыліся прэзыдэнцкія выбары, то-б за Лукашэнку прагаласавала 66 адсоткаў грамадзянаў. Незалежныя сацыялягічныя службы цьвердзяць, што прэзыдэнта падтрымлівае толькі траціна насельніцтва. У дзяржаўных мэдыях пачалі пісаць пра шырокую падтрымку прэзыдэнта: "Рабочыя "Нафтану" з пачуцьцём вялікага задавальненьня ўспрынялі зьвестку аб рэфэрэндуме", "Працоўныя "Гарызонту" горача вітаюць рэфэрэндум". Нібы вярнуліся ў 70-80-я гады. На тэлеканалах пачалі дэманстраваць ролікі "За моцную і квітнеючую Беларусь". Непасрэдна перад плебісцытам трэба чакаць чарговага падвышэньня пэнсій ды стыпэндый.

## Навіны выбарчай кампаніі

6 верасьня скончылася вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, а 16 верасьня акруговыя камісіі скончылі рэгістрацыю кандыдатаў. З 692 кандыдатаў адразу былі зарэгістраваныя 359 чалавек на 110 акругаў. Каля 150 чалавек падалі скаргі ў Цэнтрвыбаркам на перагляд. Найбольш частыя парушэньні, дапушчаныя прэтэндэнтамі, — памылкі ў запаўненьні папераў, несапраўдныя подпісы грамадзянаў, альбо памылковыя зьвесткі пры запаўненьні дэкляраціяў аб даходзе.

У многіх выпадках кандыдаты самыя вінаватыя. Але не абышлося і без "перагібаў на месцах". Напрыклад, у выбарчай акрузе ва Ўруччы (Менск) з 13 кандыдатаў засталося толькі тры. Было адмоўлена экс-кандыдату на прэзыдэнцкіх выбарах 2001 году Ўладзімеру Ганчарыку, сацыял-дэмакрату Паўлу Знаўцу, дэпутату Палаты прадстаўнікоў Уладзіміру Марухіну, экс-міністру абароны Аляксандру Чумакову.

Некаторыя не былі зарэгістраваныя праз уласную нядбайнасць і няўважлівасьць. Як напрыклад, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Станіслаў Шушкевіч, які быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты ад партыйкі, размешчанай у суседняй выбарчай акрузе! Цяпер былы лідэр Беларусі можа наракаць хіба толькі на сябе.

Сярод тых, каго таксама не зарэгістравалі: маладзёвы лідэр Аляксей Шэін, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, экс-міністр абароны Павал Казлоўскі. Не былі зарэгістраваныя і лідэры парлямэнцкае групы "Рэспубліка" Валер Фралоў, Сяргей Скрабец, Уладзімер Парфяновіч.

Праўда, лідэраў партыяў — Анатоля Лябедзьку, Сяргея Калякіна, Вінцука Вячорку, Сяргея Гайдукевіча — зарэгістравалі. Астатнім засталося некалькі дзён, каб абскардзіць рашэньні акруговых камісіяў.

## БГК хочуць ліквідаваць

Міністэрства юстыцыі Беларусі накіравала ў Вярхоўны суд пазоў аб ліквідацыі найбуйнейшай і – на гэты час адзінай – беларускай праваабарончай арганізацыі — "Беларускі Гэльсінскі камітэт". Прычына звароту — шматлікія, на думку Мінюсту, парушэньні БГК заканадаўства. Напрыклад, БГК зьвярнуўся ў Вярхоўны суд аб прызнаньні незаконным рэфэрэндуму, ініцыяванага А. Лукашэнкам.

Хучэй за ўсё, БГК ліквідуюць. Даўно ўжо камітэт назалее ўладам. Увесну разабрацца з БГК на падставе "фінансавых злоўжываньняў" не атрымалася. Цяпер зачыняць за парушэньне заканадаўства. Тым больш выбары, рэфэрэндум на носе, а камітэт мае філіі амаль ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

## Дубінкамі за жаданьне вучыцца па-беларуску

1 верасьня на Кастрычніцкім пляцы беларускае сталіцы прайшла акцыя "Хочам вучыцца па-беларуску". Яе зладзілі сябры розных моладзевых ініцыятываў, у тым ліку Маладога фронту, "Зубра", Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў. Падчас акцыі людзьмі ў цывільным быў зьбіты сын лідэра Партыі БНФ Вінцука Вячоркі — Франак. Затрымалі каардынатара "Зубра" Яўгена Афнагеля, юрыста Валянціна Стэфановіча, перакладчыка Лявона Баршчэўскага. Усіх затрыманых некалькі гадзінаў пратрымалі ў пастарунку, а потым адпусьцілі без складаньня пратаколаў.

## Пятыя ўгодкі зьнікненьня

16 верасьня мінула пяць гадоў як бясьсьледна зьніклі палітык Віктар Ганчар і бізнэсовец Анатоль Красоўскі. Сёлета ранкам 16 верасьня да муроў Рэспубліканскае пракуратуры прыйшлі грамадзкія дзеячы і журналісты. Яны раздавалі брашуры "Беларусь: нераскрытыя злачынствы найноўшай гісторыі", у якой распавядаецца пра зьніклых беларускіх палітыкаў і вядомых людзей, а таксама даклад адмысловага прадстаўніка Парлямэнцкае асамблеі рады Эўропы Хрыстаса Пургурыдэса, прысьвечаны гэтай праблеме.

Акцыю наладзіла жонка Ганчара — Зінаіда. Мерапрыемства скончылася затрыманьнем двух праваабаронцаў — Гары Паганяйлы і Тацьцяны Равякі й журналіста інфармацыйнай кампаніі "Інтэрфакс" Аляксея Букчына. "Гэта нейкі жах, — заявіла Зінаіда Ганчар прысутным журналістам — мы прыйшлі сюды, каб атрымаць адказ на пытаньне, які задаем пяць гадоў: дзе скрадзеныя людзі? Але нам нават не дазваляюць стаяць там, дзе мы хочам, хадзіць там, дзе хочам, і думаць тое, што мы хочам". Увечары 16 верасьня на Кастрычніцкім пляцы Менску прайшла акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей", прысьвечаная гэтым сумным угодкам. Тым часам людзі, якія падазраюцца ў датычнасьці да выкраданьняў палітыкаў, працягваюць займаць высокія пасады ў Беларусі. Віктар Шэйман — генэральны пракурор, Юры Сівакоў — міністар спорту і турызму, Дзмітры Паўлічэнка кіруе вайсковай часткай.

## Пра Беларусь і суседзяў

Згодна зь беларускімі статыстычнымі выкладкамі, сярэднегадавы даход на душу насельніцтва ў 2004 годзе мусіць скласьці 1690 даляраў. А ў праекце бюджэту на наступны год яго "абяцаюць падвысіць" на 15-17 адсоткаў. Зьвернемся да дадзеных Міжнароднага валютнага фонду, выкладзеных на сайце ВВС. Гэта лічбы 2002 году, таму трэба ўлічваць, што ў 2002 годзе сярэднегадавы даход беларусаў быў на 20-30 адсоткаў меншы, чым цяпер. У Азэрбайджане ў 2002 годзе такі даход складаў 710 даляраў. У Летуве – 3670, Латвіі – 3480, Славаччыне – 3970, Эстоніі — 4190, Польшчы – 4570, Вугоршчыне — 5290 даляраў, Чэхіі – 5480, Славеніі — 10500 даляраў. У высокаразьвітых краінах даход яшчэ вышэйшы. У Вялікабрытаніі, напрыклад, 25500 даляраў.

## Землятрус у Беларусі

21 верасьня ў Менску назіраліся падземныя штуршкі, якія сталі адгалоскам землятрусу сілаю 4,5 балаў паводле шкалы Рыхтэра, што адбылося на Балтыйскім узьбярэжжы Польшчы (Гданьск – Гдыня – Сопат) і ваколіцах Калінінграду. У Менску ўвечары былі зафіксаваны штуршкі сілаю 2-3 балы.

Натуральна, што ні разбурэньняў, ні пацярпелых у Беларусі не было. А вось у недалёкім Калінінградзе ў офісах пападала на падлогу аргтэхніка і выключыліся мабільныя тэлефоны.

Між тым, наймацнейшыя землятрусы адбыліся ў Беларусі ў 1887 годзе за 30 км на поўнач ад Барысава сілай 5-6 балаў і ў 1908 годзе на мяжы Беларусі й Летувы сілаю каля 7 балаў. У апошнія гады наймацнейшыя землятрусы з эпіцэнтрам на тэрыторыі краіны былі зафіксаваныя ў траўні 1978 году ў Салігорскім раёне і ў сьнежні 1983 году на перакрыжаваньні Магілёўскага і Паўночна-Прыпяцкага разломаў.

*Уласны карэспандэнт*

# РАСЕЯ. Інфармацыйны нафталін

Пачынаючы з 2004 годе, пасьля таго, як КГБ татальна "выйграў" выбары ў Дзяржаўную Думу і забраў абсалютную ўладу ў Расеі, істотна перамянілася інфармацыйная палітыка ў гэтай краіне. Экспэрымэнтальныя варыянты ўжо былі адпрацаваныя ў Беларусі праз Лукашэнку, і таму расейскі друк і электронныя СМІ вельмі хутка сталі выяўляць думкі крамлёўскай чэкісцкай хунты. (Пры гэтым некаторыя журналісты былі забітыя кілерамі, а мэдыя-магнаты – вытураныя за мяжу.)

Галоўным відавочным паваротам у інфармацыі стаў паварот да рэчаіснасьці й ідэалягічных напрацовак савецкай эпохі. Савецкая тарабаршчына, героі пяцігодак, вайны ды працы не зьнікаюць з экрану. І ва ўсім гэтым галоўнай тэмай становяцца "дасягненьні" і дзейнасьць НКВД-КГБ.

Адчуўшы сілу поўнай улады, КГБ ужо не хаваецца ў самаўсхваленьні. З загашнікаў, са сховішчаў за сямі пячаткамі падымаюць на паверхню ў якасьці герояў такіх нягоднікаў і бандзёраў, што дзіву даешся. Часам узьнікаюць цікавыя факты, якія вымоўна ілюструюць сучасную (і заўсёдную) дзейнасьць гэтай структуры палітычнага сачэньня, выведкі і цяперашняй супэрпартыі расейскай улады.

Трэцяга траўня гэтага году, напрыклад, НТВ паказала ўсхваляльны сюжэт пра энкавэдзіста-разьведчыка 30-40 гадоў, нейкага Якава Серабранскага. З гераічным пафасам паведамлена, што, пачынаючы з 1937 году, ён быў арганізатарам савецкага тэрору за мяжой, стварыў савецкую школу тэрарызму і тэхналягічных дывэрсіяў у краінах Захаду. Пры гэтым, перш, чым заслаць, бальшавікі (НКВД) яго спэцыяльна арыштоўвалі па надуманым абвінавачваньні, саджалі ў ГУЛАГ, прыгаворвалі да пакараньня сьмерцю (каб адвесьці падазрэньні), потым арганізоўвалі "ўцёкі" і г. д.

Гэта быў тэрарыст надзвычай жорсткі і брутальны, арганізоўваў складаныя забойствы, вербаваў выканаўцаў. Урэшце, пасьля зраблення пэўнай сваёй "працы", яго ліквідавалі самы ворганы НКВД (зашмат ведаў). Андропаў, стаўшы генсекам, яго "рэабілітаваў", а цяперашнія ўладаемцы лепяць зь яго героя.

Успомнілі пра так званых "чалюскінцаў" – мыльную бурбалку 30-х гадоў, узьвялічаную сталінскай прапагандай да неверагодных маштабаў. Хочуць адрадзіць энкавэдзісцкія справы 30-х гадоў ў сьведамасьці цяперашняга пакаленьня. Маладыя менчукі, што глядзяць расейскае тэлебачаньне, ходзяць па былым лесе Ванькевіча, пераўтвораным у "парк Чалюскінцаў", і ня ведаюць, што гэта за слова такое незвычайнае беларускае. Але яно такое беларускае, як, скажам, "Бангалёр" ці вуліца "Іркуцкая".

"Чалюскін" – так называўся расейскі цеплаход, які быў сьцерты ільдамі ў Паўночна-Ледавітым акіяне. Людзі (104 асобы) высадзіліся на лёд, адкуль іх самалётамі перавезьлі на мацярык. Вакол гэтай падзеі быў неверагодны прапагандысцкі шум. Усіх назвалі героямі (і пацярпелых, і ратавальнікаў), усім далі ордэны, зоркі герояў, складалі пра іх песьні, называлі вуліцы імем карабля і г. д.

Здумляе, чаму вакол гэтай падзеі ўзьнікла тады гэтакая "куцерма". Справа ў тым, што на цеплаходзе (які быў прадстаўлены як навуковае судна) вяжыравалі ня проста "савецкія людзі", а "асаблівыя людзі". Цеплаход "Чалюскін" суправаджаў параход "Пїжма", на якім на працу ў руднікі ў паўночнасібірскія лягеры ГУЛАГу везьлі дзьве тысячы "зэкаў". А на "Чалюскіне" побач плылі энкавэдысцкія ахоўнікі і канваіры, разам з сем'ямі (жонкамі ды дзецьмі). Здарылася крушэньне, а тут "такі кантынгент". Загадалі быць героямі.

Гэтакая вось гэбоўская "рамантыка", якую цяпер хочуць адрадзіць у Расеі нашчадкі егудаў ды яжовых, імкнучыся яшчэ раз зьляпіць з гэтага геройскую "канфекту". Ужо нават экспэдыцыю паслалі на Ледавіты акіян шукаць на дне канвойную пасудзіну.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

## Зь гісторыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

*У якасьці анонсу публікуем разьдзел з кнігі Зьмітра Саўкі "Пяцьдзесят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949-1999)"Кніга мае выйсьці ў БІНІМаўскай сэрыі "Гісторыя эміграцыі". Сярод герояў кнігі - нямала чытачоў "Беларуса", таму аўтар зьвяртаецца з просьбаю скіраваць на адрас рэдакцыі газэты свае водгукі, а магчыма, і ўдакладненьні; верагодна, нехта са старых базаўцаў мог-бы падзяліцца не публікаванымі раней якаснымі фотаздымкамі, якія ілюструюць гісторыю БАЗА.*

*Карыстаючыся з нагоды, аўтар шчыра дзякуе ўсім, хто спрычыніўся да збору матар'ялаў для кнігі.*

# Беларусы на Капіталійскім пагорку

## БАЗА і амэрыканская палітычная сыстэма

Эміграцыя — даволі спэцыфічны стан чалавека, асабліва палітычная эміграцыя, калі чалавек прыехаў у чужую краіну не шукаць *сябе іншага*, а захаваць *сябе ранейшага*, бо гэта было немагчыма на ягонай радзіме. Гэтым палітычны эмігрант адрозьніваецца ад эмігранта эканамічнага, для якога канчатковая мэта, гэтак мовячы, станцыя прызначэньня — найхутчэйшая інтэграцыя ў новае для яго грамадзтва й поўная асыміляцыя.

Палітычная эміграцыя ня можа быць *пасьпяховаю*, г. зн. уплываць на сытуацыю ў краіне паходжаньня, калі ня будзе скарыстоўваць магчымасьцяў, што адкрываюцца ёй у краіне выгнаньня. Тым больш гэта справядліва ў ЗША — самай уплывовай краіне сьвету, адзінай супэрдзяржаве. Вось чаму палітычная эміграцыі з розных краінаў у ЗША імкнуцца інтэгравацца ў палітычнае жыцьцё Амэрыкі, каб такім чынам лабіяваць свае інтарэсы й памкненьні ў вашынгтонскіх калідорах улады.

### Рэспубліканцы

Беларуская эміграцыя ЗША наагул у сваёй масе (а ў тым ліку й сябры БАЗА) — прарэспубліканская. Такая палітычная арыентацыя цалкам заканамерная: рэспубліканцы заўсёды займалі больш жорсткую пазыцыю ў дачыненьні камунізму, што давала ім перавагу ў вачох беларускага палітэмігранта перад дэмакратамі.

Найлепшую кар'еру ў амэрыканскай палітыцы зрабіў Вітаўт Кіпель: у 1978—1982 гадох ён ачольваў Этнічную Раду (Ethnic Council) пры губэрнатару штату Нью Джэрзі* і быў рэдактарам адмысловага выданьня *Heritage Review*. І гэта ў штаце, дзе беларусы не складаюць хоць бы якога заўважнага адсотку.

Вітаўт Кіпель: *Маё прызначэньне вельмі не спадабалася гішпанамоўнай меншасьці, сярод якой найбольш палітычна актыўныя — кубінцы. У этнічных арганізацыях рэспубліканцаў у Нью Джэрзі яны прызвычаіліся быць першымі.*

Пасьпяхова супрацоўнічалі з рэспубліканцамі ня толькі ў Нью Джэрзі — добрыя стасункі з гэтай партыяй склаліся практычна ва ўсіх аддзелаў БАЗА, у тым ліку ў Нью Ёрку — горадзе вялікай палітыкі. У адрозьненьне ад іншых месцаў кампактнага расьсяленьня беларусаў, Нью Ёрк вызначаецца выразнай прыхільнасьцю да лібэральнае плыні, г. зн. насельніцтва гораду — у адрозьненьне ад насельніцтва аднайменнага штату — традыйцыйна галасуе за дэмакратаў. І гэты факт, прынамсі ў нейкай ступені, граў на руку нью-ёркаўцам беларускага паходжаньня: у пераважна прадэмакратычным асяродзьдзі яны мелі больш шанцаў быць выслуханымі й нават падтрыманымі з боку рэспубліканцаў. Першым з базаўскіх кіраўнікоў, хто навязаў трывалыя кантакты з Рэспубліканскаю Партыяй, быў Кастусь Мярляк, які набыў досьвед кантактаў з палітычнымі элітамі ў часе свайго жыцьця ў Аргентыне:

*У Аргентыне была свабода, і я кантактаваў там з рознымі палітыкамі, з тымі ж пэраністамі. Прыехаў у Амэрыку, а тут зь беларусаў ніхто ў Вашынгтоне не бываў! Беларусы чуліся вінаватымі за тое, што супрацоўнічалі зь немцамі ў часе вайны...*



**На здымку: беларуская дэлегацыя ў Кангрэсе ЗША. Першы рад зьлева направа: Ірына Курапаткіна, Людміла Гразнова, Сямён Шарэцкі, Янка Запруднік; другі рад: кангрэсмэн Стэні Гоер, Станіслаў Шушкевіч.**

Менавіта Мярляк пачаў рэгулярна запрашаць амэрыканскіх палітыкаў на самыя розныя базаўскія імпрэзы. На кепскай ангельскай мове, але адкрыта й выразна ён публічна зьвяртаўся да іх — людзей, за якіх галасавалі й беларусы (бальшыня зь іх у другой палове 1950-х ужо прайшлі натуралізацыю й атрымалі амэрыканскае грамадзянства): не заставайцеся абыякавамі да таго, што адбываецца ў БССР! Разам з намі ўзьнімайце свой галос за нашых паняволеных суродзічаў!

Трэба прызнаць, да сярэдзіны 1960-х палітычныя эліты — і кансэрватыўнага, і лібэральнага кірункаў — ня бачылі ў этнічных групах значнага электаральнага патэнцыялу**. Але палітычна актыўныя слаі дыяспараў, каму дагэтуль адводзіліся роля назіральнікаў за «барацьбою капіталістычнай і сацыялістычнай сыстэмаў», як толькі гэтая барацьба набыла адзнакі "змаганьня за розумы", — пачалі настойлівей і настойлівей патрабаваць ад "тых хлопцаў у Вашынгтоне" звярнуць увагу й на правы чалавека, і на права народаў быць свабоднымі й сувэрэннымі.

Увага амэрыканскіх палітыкаў да этнічных групаў як да патэнцыйных адэптаў асабліва ўзмацнілася тады, калі Віетнамская вайна пачала зацягвацца й рабіцца вельмі непапулярнаю сярод вы барнікаў. Адміністрацыі Белага Дому спатрэбілася дадатковая апора ў грамадзтве, і гэтаю апораю маглі стаць антыкамуністычныя дыяспары, г. зн. палітычна заангажаваныя групы эмігрантаў з краінаў, што ўваходзілі ў «сацыялістычны лягер» або знаходзіліся пад кантролем «чырвоных».

**6 сьнежня 1968 году** ў нью-ёрскім гатэлі «Білтмар» быў скліканы Камітэт Нацыянальнасьцяў Нью Ёрку, у выніку чаго паўстаў Нью-Ёрскі Аддзел Нацыянальнасьцяў пры Рэспубліканскай партыі. Гэтак рэалізаваліся перадвыбарчыя абяцаньні Рычарда Ніксана зьвярнуць больш увагу на нацыянальныя групы (Беларус. №141. 1969. Студзень). Адным з чатырох сэктараў аддзелу быў Сэктар Паняволеных Камунізмам Народаў. Гэта быў моцны крок.

*Рэвізія дачыненьняў да нацыянальных ... групаў, што выразна зазначылася ў Рэспубліканскай Партыі ЗША пасьля ейнага прыходу да ўлады ў выніку прэзыдэнцкіх выбараў год таму, датычыць і да нас, беларусаў. Гэтая рэвізія пайшла ў кірунку зразуменьня вялікае ўдзельнае вагі нацыянальных групаў у нутраным жыцьці Амэрыкі й вызнаньня за пазытыўную зьяву захаваньня, разьвіцьця й культываваньня гэтымі групамі іхнай нацыянальнай спадчыны, прынесенае з краёў іхнага паходжаньня...*

*Як ведама, у Амэрыцы існуюць у дачыненьні да нацыянальных групаў дзьве супрацьлежныя тэорыі: тэорыя «пэратоплівяючага катла» (melting pot), якая імкнецца да поўнае асыміляцыі прыбылых у Амэрыку эмігрантаў; другая тэорыя, якую можна назваць тэорыяй дзьвюх бацькаўшчынаў, вызнае нацыянальную разнаякасьць амэрыканскага народу і ў захаваньні нацыянальнай спадчыны паасобных нацыянальных групаў бачыць ня слабасьць, а сілу Амэрыкі...*

*Палітычныя кіраўніцвы бальшыні нацыянальных групаў Амэрыкі зразумелі важнасьць гэтага новага ў дачыненьні да іх курсу. Сярод гэтых нацыянальнасьцяў па ўсёй Амэрыцы паўсталі ўжо свае нацыянальныя рэспубліканскія арганізацыі.* (Беларус. №151. 1969. Лістапад)

На такія захады рэспубліканцаў ньюёрскія беларусы адказалі стварэньнем Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу (БАРК), устаноўчы сход якога адбыўся **8 лютага 1970 году**. У кіраўніцтва клюбу абралі: Станіслаў Станкевіч — старшыня, Уладзімер Набагез — заступнік старшыні, Мікола Гарошка — сакратар, Барыс Данілюк — скарбнік, Раіса Станкевіч — рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў. БАРК навязаў кантакт з Аддзелам Нацыянальнасьцяў Усеамэрыканскага Рэспубліканскага Камітэту ў Вашынгтоне.

У тым жа 1970-м прэзыдэнт Ніксан стварыў сталы Камітэт для Справаў Нацыянальнасьцяў пад старшыняваньнем сакратара транспарту Джона Уолпі, а таксама пры Аддзеле Нацыянальных Групаў (тагачасны дырэктар аддзелу Ласла Пастар) склікаў Дарадчы Камітэт у складзе 39 лідэраў дыяспараў. Дарадцам ад беларусаў стаў Станіслаў Станкевіч. Як і прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў ён скарыстоўваў трыбуну камітэту й рэгулярных (раз на паўгодзьдзе) канфэрэнцыях няўрадавых арганізацыяў, якія ладзіў Дзяржаўдэпартамэнт для выказваньня спэцыфічных беларускіх патрэбаў.

Бачачы прыхільнасьць з боку рэспубліканскай адміністрацыі, беларусы-рэспубліканцы актыўна праявілі сябе ў прэзыдэнцкіх выбарчых кампаніях 1968 і асабліва 1972 гадоў***.

Перад выбарамі-1968 у Кліўлэндзе ўзьнік Беларуска-Амэрыканскі Рэспубліканскі Камітэт, які дзейна спрычыніўся да агітацыі за Ніксана сярод беларусаў. На інаўгурацыі новаабранага прэзыдэнта ў Вашынгтоне беларусаў-рэспубліканцаў рэпрэзэнтаваў Янка Ракевіч, які **21 лютага 1971 году** на арганізацыйным сходзе Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу ў штаце Агаё (тагачасныя актывісты клюбу Юрка Гасьцееў, Уладзімер Літвінка, Янка Лукашэвіч**** ) быў абраны на старшыню.

У кампаніі-1972 годна выступілі прарэспубліканскія беларускія сілы ў Нью Джэрзі:

*На арганізаваных беларусамі мітынгах у Кліфтане прысутнічала блізу 650 чалавек, у Патэрсане — каля 300 чалавек, Нью Брансўіку — каля 450 чалавек і ў Ньюарку — 400 чалавек, што трэба заўдзячваць дапамозе сяброў Асацыяцыі Беларускіх Вэтэранаў у Пасэйку, сябром БАЗА ды Беларускага Кангрэсавага Камітэту. ... Беларусы Нью Джэрзі завэрбавалі ў кампанію колькі сотняў італьянцаў, палякаў, ірляндцаў і немцаў. ... Вялікую прапа-*

**Працяг на бачыне 6**

* *Такая структура ўзьнікла ўпершыню менавіта ў штаце Нью Джэрзі, дзе існуе 65 этнічных групаў і 1700 этнічных арганізацыяў.*

** *Праўда, пэўныя крокі насустрач палітычным амбіцыям этнічных групаў рабіліся і ў 1950-х гадох. Прыкладам* ***10 сьнежня 1956 году*** *прадстаўнік БАЗА Пётра Манькоўскі ўзяў удзел у ініцыяванай Белым Домам Канфэрэнцыі Супрацоўніцтва між Народамі ў Вашынгтоне; ад таго момантуБАЗА стала сябрам арганізацыі* ***People-to-People Partnership*** *і нейкі час цесна супрацоўнічала зь ёю.*

*** *У межах кампаніі ўдалося вырабіць нагрудныя жэтоны (знакі) накладам па 25 тысячаў з надпісам* ***Byelorussians for Nixon****. Наступны раз, калі Аддзел Этнічных Выбарнікаў Рэспубліканскае Партыі выдаў такі-ж знак, стаўся праз 12 гадоў:* ***Byelorussians for Reagan-Bush'84****.*

**** *Пазьней у беларускім рэспубліканскім руху праявілі сябе таксама кліўлендцы Мікола Гумен, Аўген Кабяка, Кастусь Калоша, Ірэна Каляда, Сяргей Карніловіч, Андрэй Стрэчань.*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №10 (465)


# Верасьнёўскі сход аддзелу БАЗА

Чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 11 верасьня. Напачатку старшыня аддзелу Віталь Зайка распавёў пра падзеі ў Беларусі за апошні месяц. Сярод найбольш важных падзеяў былі ўзгаданыя падрыхтоўка да выбараў у Палату прадстаўнікоў і выступ Лукашэнкі аб правядзеньні рэфэрэндуму пра скасаваньне абмежаваньняў на колькасьць прэзыдэнцкіх кадэнцыяў. Затым прамоўца распавёў пра 26-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая праходзіла з 4 па 6-га верасьня ў Таронта, Канада. Традыцыя Сустрэчаў была годна падтрыманая ў Таронта, дзе галоўнаю тэмаю стала абарона беларускай мовы й набыткаў беларускай культуры, якія апынуліся пад пагрозаю ў выніку этнацыду, які праводзіць рэжым Лукашэнкі супраць беларускага народу. Сп. Зайка адзначыў выдатны ўзровень падрыхтоўкі й правядзеньня Сустрэчы ды падкрэсьліў неабходнасьць мацаваньня кантактаў унутры беларускай грамады Паўночай Амэрыкі – як паміж арганізацыямі, так і паміж асобамі.

Затым з аналізам апошніх падзеяў у Беларусі выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён адзначыў, што рэферэндум аб зьмене Канстытуцыі, падрыхтаваны рэжымам Лукашэнкі, фактычна ёсьць незаконны крок, скіраваны на забраньне Лукашэнкам царскіх паўнамоцтваў для сябе. У сьвятле аб'яўленага рэфэрэндуму ўсе тыя, хто агітаваў за актыўны ўдзел у выбарах у палату прадстаўнікоў пад прэтэкстам "распаўсюджаньня інфармацы пра свае партыі", "набіраньня палітычнага вопыту", трапілі ў пастку, якую па-майстэрску распрацаваў рэжым. Цяпер сфальсыфікаваныя вынікі й выбараў, і рэферэндуму будзе цяжэй аспрэчваць дзеля ўдзелу ў іх апазыцыйных сілаў. Ясна, што падлік галасоў цалкам пад кантролем рэжыму, і выйдзе так, як будзе замоўлена Лукашэнкам і ягонымі памагатымі. Нават тайнасьць правядзеньня галасаваньня на руку рэжыму. Таму байкот — гэта адзіны слушны выхад і форма змаганьня, і КХП БНФ працуе на гэта. Бруксэльскія структуры не былі гатовыя да магчымасьці рэферэндуму, і знаходзяцца ў шоку. Беларусь усё больш уцягваецца ў міжнародную палітыку, хочам мы таго або не. Таму гэты зьнешні фактар трэба ўлучаць у змаганьне ўнутры краіны. Вельмі нядобра выглядае супадзеньне аб'явы пра рэферэндум з часам жалобы ў Расеі па загінулых ахвярах у Асеціі. Таксама дзіўным ёсьць раптоўны візыт Лукашэнкі ў Сочы й заява аб прыйсьці ў Беларусь расейскай валюты ў 2006 годзе, аднаўленьне рэторыкі аб патрэбе Канстытуцыйнага акту. Разам з тым беларускія нацыянальныя сілы маюць пэрспэктывы для змаганьня і павінны добра зразумець сытуацыю.

Затым са сваёй прапановай адносна таго, што можна зрабіць у перыяд, які застаўся да выбараў і рэфэрэндуму ў Беларусі, выступіў сп. Вячка Станкевіч. Байкот — гэта ўжо запозна. Але мы, прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў, можам зьвярнуцца да урадаў, установаў і палітыкаў, тлумачачы, што выбары ў Беларусі не могуць быць справядлівымі й вольнымі. Місія АБСЭ, якая маецца назіраць за выбарамі, калі пераканаць яе ў нясслушнасьці ўдзелу у правядзеньні выбараў у любой форме, за некалькі тыдняў да выбараў можа спакавацца і зьехаць. У гэтым выпадку стаўленьне да вынікаў і выбараў, і рэферэндуму ні ў кога ня будзе выклікаць сумненьняў. І вось дзеяньні на тое, каб давесьці свае погляды да належных структураў, пераканаць іх, і ёсьць форма супраціву, якая патрэбная сёньня.

Са сваім бачаньнем неабходных крокаў па супрацьстаяньні дыктатуры ў Беларусі выступіў прэзыдэнт Сусьветнага Згуртаваньня Беларускіх Гэбраяў сп. Якаў Гутман. Ён адзначыў, што адзінае выйсьце — гэта ўплыў на краіны Захаду з тым, каб не дапусьціць легілізацыі новых незаконных дзеяньняў рэжыму ў Беларусі, сумесныя акцыі й выстаўленьне канкрэтных патрабаваньняў, што далі-б магчымасьць абмежаваць нэгатыўныя вынікі дзеяньняў рэжыму Лукашэнкі.

Затым у разьдзеле "Рознае" прагучэлі аб'явы й паведамленьні, адбылося знаёмства з гасьцямі сходу аддзелу. Потым, як заўсёды, прысутныя мелі магчымасьць таварыскага калегаваньня пры кубку кавы й прысмаках.

**Віталь ЗАЙКА**

## Сустрэча ў Канадзе

*Працяг з бачыны 1*

Качаткоў, Алесь Кот, Сяргей Дрозд, Ірына Варабей.

На трэцім круглым стале абмяркоўваліся пытаньні прыцягненьня былых жыхароў Беларусі ў ЗША і Канадзе да дзейнасьці беларускіх арганізацыяў, актывізацыя іхнай дзейнасьці й узмацненьне салідарнасьці паміж асобамі й арганізацыямі беларускай грамады Паўночнай Амэрыкі. Удзел у дыскусіі бралі архіяп. Юры, сп.сп. Юрка Рапецкі, Віталь Зайка, Пётр Мурзёнак, Зьміцер Левіт. Па выніках круглых сталоў былі прынятыя Рэзалюцыя Сустрэчы і Зварот да ўрадаў і міжнародных арганізацыяў у справе антысэмітызму ў Беларусі.

Увечары ў памяшканьні Летувіскага Дому адбыўся Баль Сустрэчы й канцэрт. Баль суправаджаўся банкетам, дзе можна было пакаштаваць беларускіх страваў, і канцэртам, ладжаным сіламі сябраў ЗБК ды іх дзяцей. Выступы музыкаў, танцораў і сьпевакоў былі энтузіястычна сустрэтыя прысутнымі.

5 верасьня раніцаю прайшла Багаслужба ў Царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, якую правёў япіскап БАПЦ Уладыка Васіль. Затым у залі Беларускага Грамадзкага і Рэлігійнага Цэнтру працягнуў сваю працу сход Сустрэчы, на якім былі прачытаныя даклады. Даклад "Роля палітычнае эміграцыі ў абароне беларускае дзяржаўнасьці" прачытаў першы заступнік Старшыні Рады БНР, дырэктар БІНіМу Др. Вітаўт Кіпель (Нью Ёрк); даклад «Беларуская дзяржаўнасьць на сучасным этапе: замацоўваецца ці слабее?» сябра Прэзыдыюму Рады БНР, су-старшыня Каліцыі ў абарону дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі др. Янка Запруднік (Нью Джэрзі); даклад «Гістарычная арыентацыя ў часе і прасторы» — пісьменьніца Вольга Іпатава (Менск); даклад "Васіль Быкаў: памяць майго сэрца" — прафэсар Ватэрлускага Унівэрсытэту др. Зіна Гімпелевіч (Канада).

Прысутныя пpaглeдзeлi дакумэнтальны фільм пра Васіля Быкава, што быў забаронены для паказу на дзяржаўным Беларускім тэлебачаньні.



Увечары тут-жа ў залі прайшлі сяброўская вечарына і канцэрт, на якім выступілі выканаўцы беларускай грамады ЗША і Канады, у тым ліку фальклёрная група "Яваровы людзі" пад кіраўніцтвам спн. Віялеты Кавалёвай, бард сп. Сяржук Сокалаў-Воюш. Акторы Народнага Тэатру Згуртаваньня Беларусаў Канады прадставілі ўвазе прысутных п'есу Ўладзіслава Галубка "Пісаравы імяніны". Усе прысутныя гарачымі апладысмэнтамі віталі выканаўцаў, і асабліва — прадстаўнікоў маладога пакаленьня.

Назаўтра адбылося разьвітаньне і паломніцтва да Беларускага памятнага крыжа ў Мідленд. Прысутныя шчыра павіншавалі гаспадароў Сустрэчы з добра арганізаванай і выдатна праведзенай імпрэзай. Гаспадары й госьці сустрэчы адзначылі патрэбу падобных імпрэзаў для яднаньня беларускіх людзей у Паўночнай Амэрыцы й для каардынацыі дзейнасьці беларускіх арганізацыяў па ўзмацненьні беларускай прысутнасьці й па дапамозе для Бацькаўшчыны.

**Віталь ЗАЙКА**

*У канцэрце прыймалі ўдзел:*

*Уладзімер Гародкін – цымбаліст, ў мінулым - саліст Беларускага радыё і тэлебачаньня;*

*Ірына Бабук - скрыпачка дзяржаўнага канцэртнага аркестру Рэспублікі Беларусь;*

*Сьвятлана Літвінава – у мінулым – салістка дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча;*

*Аляксандр Севасьцьян – баяніст, дыплямант міжнародных конкурсаў;*

*Мікалай Град – гітарыст;*

**Працяг на бачыне 5**

# Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 11 верасьня 2004 г. ў залі Фундацыі імя П. Крэчэўскага па адрасу:

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

Даезд цягнікам падземкі F да прыпынку *169th St.* Прайсьці потым ад станцыі два блёкі на поўнач да скрыжаваньня *167 Street* і *Gothic Krive*, дзе на іх скрыжаваньні знаходзіцца будынак Фундацыі.

Даезд аўтам з Брукліну і Мангэтану па *Grand Central Parkway* да зьезду *Parsons Blvd*, тады па сэрвіс роўд да *168 Street* і па ёй зьвярнуць управа каля будынку школы, на *Gothic Krive* зьвярнуць зноў направа. На скрыжаваньні *Gothic Krive* і *167 Street* стаіць будынак Фундацыі, які можна лёгка казнаць па бел-чырвона-белым сьцягу ля дзьвярэй.

Запрашаем сяброў аддзелу і ўсіх зацікаўленых.

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association*.**

## З гісторыі БАЗА

*Заканчэньне з бачыны 4*

*гандовую справу зрабіла клійлэндзкая беларуская калёнія пры спатканьні Прэзыдэнта Ніксана на лётнішчы 28 кастрычніка. Група ў колькасьці 20 чалавек выдатна запрэзэнтавалася нацыянальнай вопраткай, што Прэзыдэнт Ніксан зьвярнуў на яе ўвагу й асабіста павітаўся з многімі беларусамі.* (Беларус. №188. 1972. Сьнежань)

Кампанія 1972-га аказалася ўдалаю для рэспубліканцаў. На прыняцьцё ў Белым доме з нагоды перавыбараў Рычарда Ніксана 17 сьнежня запрасілі сужэнства Кіпеляў.

*...беларуская група выявіла свой дынамізм у выбарах, і як каардынатару нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі [мне] прыемна было ўсьведамляць, што этнічныя галасы забясьпечылі Прэзыдэнту Ніксану перамогу ўва ўсіх акругах штату.* (В. Кіпель)

На чарговым прэзыдэнцкім прыняцьці ў Белым доме (19 лютага 1974 году), дзе сабралі прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў, Станіслаў Станкевіч і Вітаўт Кіпель:

*...гутарачы з Прэзыдэнтам, перадалі яму просьбу ад імя ўсіх беларусаў, каб у плянаванай сёлетняй паездцы ў Маскву наведаў ён і паняволены беларускі Менск, што падмацавала-б вызвольныя надзеі беларускага народу.*

*Пытаньне наведаньня прэзыдэнтам Ніксанам Менску закраналася беларускімі прадстаўнікамі і ў гутарках з старшынём Цэнтральнага Камітэту Рэспубліканскае Партыі Джорджам Бушам, спэцыяльным дараднікам прэзыдэнта Ўільямам Баруды, кангрэсмэнам Эдвардам Дэрвінскім і іншымі. Хоць пляны прэзыдэнцкага маршруту ў СССР ужо бадай распрацаваныя, кангрэсмэн Э. Дэрвінскі паабяцаў парушыць гэтае пытаньне перад дзяржаўным сакратаром Гэнры Кісынджэрам.* (Беларус. №202)

У канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1974 году я, 8-гадовы хлапчук, разам з маці адпачываў у санаторы «Беларусь» непадалёк Менскага мора. Напярэдадні 1 ліпеня немаведама адкуль увесь санатор ужо ведаў, што па дарозе паўз санатор будзе праяжджаць амэрыканскі прэзыдэнт, і пад вечар наступнага дня ўсе адпачыньнікі — сотні й сотні людзей пацягліся да шашы. У паветры лунала прадчуваньне нечага незвычайнага й важнага. Паабапал дарогі ўжо стаялі міліцыянты, не пускалі падыходзіць да шашы, было відаць, што яны таксама хвалююцца. І вось паўз застылы чалавечы плот праляцеў прэзыдэнцкі картэж... Усе вярталіся ў санатор моўчкі. Памятаю, мяне зьдзівіла адна акалічнасьць: ніхто ня лаяў амэрыканцаў, не абураўся з таго, што іхны прэзыдэнт пасьмеў прыехаць у Савецкі Саюз, у краіну, якую яны, амэрыканцы так ненавідзяць, і якой яны прыносяць столькі гора. Пазьней, праз гады, я даведаўся, што й бээсэсэраўскі друк адносна прыязна паставіўся да Ніксана, цытуючы словы ягонае жонкі: «Беларусь — самы прыгожы край, якія я бачыла».

Менавіта Адміністрацыя Белага дому інсьпіравала ўзьнікненьне ў межах этнічных групаў рэспубліканскіх клюбаў паасобных нацыянальнасьцяў, а зь іх меліся стварацца ўсеамэрыканскія рэспубліканскія камітэты паасобных нацыянальнасьцяў.

Пазьней Беларуска-Амэрыканскія Клюбы ў розных штатах: Агаё (старшыня Янка Раковіч), Дэтройце, Каліфорніі (старшыня Язэп Арцюх), Мэрылэндзе (старшыня Васіль Мельяновіч), Нью Джэрзі (старшыня Вітаўт Кіпель), Нью Ёрку (старшыня Станіслаў Станкевіч) — злучыліся ў Беларуска-Амэрыканскую Рэспубліканскую Фэдэрацыю (Byelorussian-American Republican Federation), каб выступаць згуртаванымі сіламі на агульнанацыянальным узроўні.

Гэтак паўстаў зарганізаваны й структураваны беларускі рэспубліканскі рух. Ён ужо мае даволі багатую гісторыю, і гэтая самастойная тэма ў сфэры дыяспаральных студыяў чакае адмысловых досьледаў.

### Дэмакраты

Аднак было-б несправядліва казаць пра тое, што БАЗА — прарэспубліканская арганізацыя. Сярод уплывовых асобаў у БАЗА было нямала сябраў і сымпатыкаў Дэмакратычнае Партыі ЗША: напрыклад, Янка й Вольга Запруднікі, Васіль і Галіна Русакі, Антон Шукелойць; нямала прыхільнікаў Дэмакратычнае партыі было ў Дэтройцкім Аддзеле, дэлегацыя якога брала ўдзел у канфэрэнцыі дэмакратаў Сярэдняга Захаду **27 сакавіка 1960 году**.

Зрэшты, было б вельмі недальнабачна падтрымліваць толькі адну зь дзьвюх асноўных палітычных сілаў ЗША. Калі б беларусы арыентаваліся выключна на рэспубліканцаў, то ў выпадку перамогі на мясцовых ці агульнанацыянальных выбарах дэмакратаў — аказаліся б абмежаванымі ў сваёй рэпрэзэнтацыйнай дзейнасьці аж да моманту вяртаньня рэспубліканцаў ва ўладу. Інакш кажучы, падтрымліваючы толькі адзін бок, беларусы паставілі б сябе ў залежнасьць ад амэрыканскага палітычнага надвор'я. Паказальна, што яшчэ ў 1960 годзе (15 кастрычніка, у Беларускім Народным Доме ў Брукліне) лідэры БАЗА правялі нараду з прадстаўнікамі й Рэспубліканскае, і Дэмакратычнае партыяў .

У 1970-я, пасьля дзьвюх перамогаў Нікасана (у 1968-м і 1972-м), якія адбыліся ў вялікай ступені дзякуючы дальнабачнай палітыцы ў дачыненьні нацыянальнасьцяў, Дэмакратычная партыя, сьледам за рэспубліканцамі, улучылася ў "паляваньне на этнічныя галасы".

Дарэчы, рэспубліканцы не засёўды аказваліся больш пасьлядоўнымі антыкамуністамі ў параўнаньні з дэмакратамі. У 1976 годзе тагачасны прэзыдэнт рэспубліканец Джэралд Форд заявіў, што ня лічыць, быццам Савецкі Саюз паняволіў краіны Ўсходняй Эўропы; прауда, праз колькі дзён выйшаў камунікат, якім Форд дэзавуяваў свае ранейшыя словы, але было ўжо запозна... Гэтае выказваньне пасьпяхова скарыстаў дэмакрат Джымі Картэр, супернік Форда на прэзыдэнцкіх выбарах, выступіўшы з крытыкаю пазыцыі Форда — у абарону паняволеных народаў. Гарачыя дэбаты не пакінулі абыякавымі й беларусаў. Меркаваньне крытыкаў Форда выказала на старонках «Беларуса» Зінаіда Станкевіч у артыкуле «Галасаваць буду згодна з сумленьнем» (№233).

Картэр, прыйшоўшы да ўлады, заняў прынцыповую антыкамуністычную пазыцыю, бароначы правы чалавека ў СССР:

*Мала-памалу нам пачынае верыцца, што ўрэшце й беларусам выбіла гадзіна праўды й справядлівасьці ў Вашынгтоне. Нам хочацца верыць, што сапраўды прыйшоў канец на амаральныя дачыненьні да нас... Мы зь цярплівасьцяй чакаем, калі ўрэшце зьнікне боязь сьледу дасюлешняя гіпакрызія, а амэрыканская грамадзкасьць захоча пазнаёміцца бліжэй з шляхотнымі ідэямі Беларускага Вызвольнага Руху ды ўрэшце падтрымае тых, хто вядзе непасільную барацьбу за праўду, за справядлівасьць і за свабоду Беларускага Народу. З надзеяй глядзім мы ў будучыню, калі рэарыентацыя амэрыканскай публічнай апініі ў дачыненьні да нас зробіць урэшце магчымым стварэньне тут з амэрыканскай ініцыятывы арганізацыі, якая ўзяла б на сябе заданьне актыўнай апекі над вывучэньнем і папулярызацыяй сярод амэрыканцаў беларускай гісторыі й беларускай культуры — нешта накшталт Англа-Беларускага Таварыства ў Лёндане. ... Вось што прадвяшчае нам новая эра ў Вашынгтоне, якой на імя — Джымі Картэр.* (Беларус. №241. П. Вішнеўскі <С. Станкевіч> «Прэзыдэнт Джымі Картэр і беларусы»)

**2 жніўня 1977 году** ў Вашынгтоне, на прэс-канфэрэнцыя новапаўсталае Дэмакратычнае Рады Нацыянальнасьцяў (запрошаную газэту «Беларус» рэпрэзэнтавала Раіса Станкевіч), старшыня НДК Кенэт Кэртыс «выказаў надзею, што справам этнічных групаў будзе надавацца большая, чымся дасюль, вага».

У **верасьні 1977 году** ў Нью Джэрзі ўтварыўся камітэт "Амэрыканцы беларускага паходжаньня за Брэндана Бэрна*" — акцыя падтрыманьня кандыдата ад Дэмакратычнае партыі. Сярод ініцыятараў — базаўцы Васіль Русак (старшыня), Ірэна Азарка, Аўген Лысюк, Лявон Шурак (сябры). Пасьля выбараў (Бэрн быў пераабраны зь перавагаю ў 300 тысяч галасоў) камітэт ператвараўся ў **Беларускі Дэмакратычны Камітэт у Нью Джэрзі**. У дачыненьні гэтых выбараў New York Times (9 кастрычніка 1977) пісала, што ў Нью Джэрзі галасы этнічных групаў будуць вызначаць, хто стане губэрнатарам, і сярод нацыянальнасьцяў, ад якіх залежаць вынікі выбараў, называла беларусаў.

### Чытаньне малітвы ў Кангрэсе

Штодзённыя паседжаньні ў абедзьвюх палатах амэрыканскага парлямэнту — у Сэнаце й Палаце Прадстаўнікоў — традыцыйна пачынаюцца з малітвы, якую чытае сьвятар любой з канфэсіяў, якія існуюць у ЗША. Гэты чын сымбалізуе як прызнаньне дзяржаваю права на вызнаньне Бога, гэтак і роўнае стаўленьне дзяржавы да рэлігіяў. Існуе практыка запрашаць выконваць гэтую місію праз пасярэдніцтва кангрэсмэнаў. Ясная рэч, такую магчымасьць заявіць пра сябе стараюцца скарыстаць тыя супольнасьці, чыё існаваньне й праблемы не трапляюць на першыя старонкі газэтаў.

Упершыню малітва за Беларусь і беларускі народ гучала ў Кангрэсе з вуснаў айца Мікалая Лапіцкага, які — стараньнямі Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі (бэцээраўская плынь) — быў запрошаны чытаць малітву на Сакавіковыя ўгодкі **1955** году. Праз два гады, у **1957-м**, таксама й Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню ўдалося знайсьці дарогу да Капіталійскага пагорку: паседжаньне Кангрэсу ЗША пачалося малітваю ўладыкі БАПЦ япіскапа Васіля. З таго часу ледзь ня кожны год Сакавік ушаноўваўся такім чынам. У наступным годзе малітву чытаў ня толькі праваслаўны прадстаўнік беларусаў, але й каталіцкі.

### Выступы ў Кангрэсе ЗША дзеля абароны незалежнасьці Беларусі

Сакавіковыя ўгодкі рабіліся нагодаю ня толькі для такога сымбалічнага чыну, як чытаньне малітвы, але й для артыкуляцыі амэрыканскімі палітыкамі канкрэтных вымогаў іхных выбарнікаў беларускага паходжаньня. З канца 1950-х гадоў сталі нормаю парлямэнцкія прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у абарону права беларускага народу на самастойнае дзяржаўнае існаваньне. Інсьпіраваліся гэтыя выступы як Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньне, гэтак і Беларускім Кангрэсавым Камітэтам ЗША.

Каб скласьці ўяўленьне пра зьмест пакіх прамоваў, падамо фрагмэнт выступу кангрэсмэна Эдуарда Дж. Патэна ў Палаце Прадстаўнікоў — у гонар 50-х угодкаў Акту 25 Сакавіка:

*Нядаўна я канфэраваў з кіраўнікамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі, ачоленага Сяргеем Гутырчыкам зь Нью Брансўіку. Гэтая арганізацыя працуе зь вялікай стараннасьцяй і адданасьцяй для справы вызваленьня Беларусі, і я запэўніў старшыню Гутырчыка й іншых кіраўнікоў у маёй безупыннай і энтузіястычнай дапамозе.*

Кангрэсавыя асьведчаньні амэрыканскіх палітыкаў рэгулярна публікаваліся ў бюлетэні «Кангрэсавыя запісы» (Congressional Record). І самі факты выступаў ды заяваў, і іх фіксаваньне ў афіцыйным выданьні амэрыканскага парляманту незвычайна турбавалі й насьцярожвалі камуністычных кіраўнікоў, пра што сьведчыць вострая рэакцыя ў савецкім друку.

* *Такая гарачая падтрымка Бэрна з боку беларускай супольнасьці Тлумачыцца ягоным шчырым стаўленьнем да ягоных патрэбаў.*

## Лета ў Чыкага

*Працяг на бачыне 2*

для сваіх краінаў і народаў.

16 ліпеня на гэтай плошчы ўпершыню прагучаў канцэрт "Беларускія мэлёдыі". Побач з канцэртнай пляцоўкай у вялікім холе мэрыі экспанавалася выстава твораў мастака Ізраіля Радунскага. Сымбалічным было тое, што гэты канцэрт адбыўся якраз напярэдадні Тыдню Паняволеных Народаў.

Вельмі шмат людзей сабралася ў той дзень на плошчы каля мэрыі. І вось у гэтым незвычайным урбаністычным асяродзьдзі побач з чыкагскімі хмарачосамі сапраўды загучалі беларускія напевы: сола на цымбалах выконвала Ірына Грыгаровіч, цымбалістка і ксілафаністка найвышэйшага клясу, якая жыве зараз у Чыкага. А потым сваё майстэрства кампазытара і сьпевака-выканаўцы паказаў кампазытар Міхась Клейнэр. Ягоная праграма ўключала аўтарскія песні на словы вядомых беларускіх паэтаў Янкі Купалы, Уладзімера Дубоўкі, Алеся Салаўя, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Грачанікава. Вельмі натхнёна прагучаў і "Менскі вальс" на словы самога Міхася Клейнэра. Акампаніраваў яму таленавіты музыка і аранжыроўшчык Барыс Лерман.

У перапынках паміж песьнямі выступалі "Харошкі" – юныя танцоры, выхаванцы дзіцячага садку, якім кіруе Ірына Грыгаровіч. Вікі Берман, Алесь Грыгаровіч і Рычард Наўрузаў не разгубіліся на вялікай сцэне агромністай плошчы. У прыгожых нацыянальных уборах яны выдатна танчылі беларускія танцы з поўным пераўвасабленьнем у свае сцэнічныя вобразы. Выступленьне дзяцей было сустрэта бурнай авацыяй гледачоў – і тых, хто сядзеў у радах перад сцэнай, і тых, хто знаходзіўся ў гэты час на плошчы.

Праграма "Беларускія мэлёдыі", у арганізацыі якой прыняў актыўны ўдзел Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага і асабіста спадарыня Вера Рамук, спадабалася і гарадзкім уладам: прадстаўнікі аддзелу спэцыяльных мерапрыемстваў мэрыі папрасілі абавязкова арганізаваць беларускі канцэрт і ў ліпені наступнага году.

***Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ***

# Сучасная беларуская дзяржаўнасьць

## Замацоўваецца ці слабее?

*Даклад Янкі Запрудніка на 26-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронце 5 верасьня 2004 году*

Яшчэ ў сьнежні 1991 году, калі канчальна разваліўся Савецкі Саюз, Васіль Быкаў, даючы ацэнку новай эпосе, празорліва сказаў: “Самае галоўнае, самае кардынальнае пытаньне, якое цяпер стаіць перад беларусамі – гэта пытаньне дзяржаўнасьці”. (Быкаў на Свабодзе. РС, 2004, с. 10.) Пытаньне гэтае стаіць перад намі й сёньня і гучыць яно трывожна: быць беларускай дзяржаўнасьці ці не? Выжывем мы ці ня выжывем як сувэрэнная й поўнакроўная нацыя? Хоць сёньня ў сьвеце йдуць працэсы глябалізацыі, фармаваньня розных міжнародных зьвязаў, усё-ж нацыянальная дзяржава застаецца аптымальнай формай забясьпечаньня дабрабыту свайму народу і асноўнай цаглінай у будаваньні міжнародных структураў.

На Беларусі тым часам няспынна адбываюцца дзяржаватворчыя працэсы: віруе палітычнае жыцьцё, горача дэбатуецца пытаньне культурнага зьместу Рэспублікі. Расьце маладое пакаленьне, погляды якога крышталізуюцца ў абставінах існаваньня фармальна незалежнай дзяржавы. Калі пад Саветамі на панятак “беларуская дзяржаўнасьць” было накладзенае табу, сёньня ён на вуснах і рэжыму і апазыцыі. Факт і патрэба існаваньня свае дзяржавы не аспрэчваюцца ніводным з бакоў. Аспрэчваюцца толькі нацыянальна-культурныя каштоўнасьці дзяржавы, а ад іх-жа залежаць шансы далейшага выжываньня беларускай нацыі.

Паўтара году таму назад А. Лукашэнка ўзяўся ўкарэньваць у сьведамасьці грамадзянаў г. зв. “ідэялёгію беларускай дзяржавы”. З гэтай мэтай пры ягонай адміністрацыі была створаная ідэялягічная ўправа, па цэлай краіне – ад Акадэміі Навук праз усе школы і аж да мясцовых саветаў – працуе ідэялягічная вэртыкаль, выдаюцца падручнікі, чытаюцца курсы. Іншая рэч, што для ўсёй арміі вэртыкальшчыкаў ня зусім ясна, што гэта за штука, тая “ідэялёгія”. Але, прыгледзеўшыся бліжэй, становіцца ясна, што “ідэялёгія беларускай дзяржавы” прызначаная на прытупляньне, прыглушваньне нацыянальнай сьведамасьці беларусаў, рост якое стымулюецца фактам існаваньня Беларускай Дзяржавы.

Лукашэнка, запачаткоўваючы сваю ідэялягічную кампанію, параўнаў дзяржаўную ідэялёгію зь “імунный сыстэмай для жывога арганізму”: калі імунітэт аслабее, кажа ён, дык “любая, нават самая нязначная, інфэкцыя становіцца сьмяротнай”. (Даклад на сэмінары..., ч. 1, с. 1). А найстрашнейшай для яго – гэта “інфэкцыя нацыяналізму”. Пад “нацыяналізмам” ён разумее, пэўна-ж, беларускі нацыяналізм, бо расейскага нацыяналізму, асабліва ў форме моўнай экспансіі, цяпер ў Беларусі поўна. Тым ня менш, і расейскі нацыяналізм у сучаснай беларускай дзяржаве мае сваю мяжу. Яна параходзіць там, дзе Лукашэнка бачыць пагрозу сваім асабістым палітычным інтарэсам. Выступаючы перад урадаўцамі ў сакавіку 2003 году на ідэялягічным сэмінары, ён гаварыў пра інфармацыйную канкурэнцыю, якая адбываецца на тэлеканалах (а якія ў Беларусі каналы? – расейскія ды беларускія). “Гэта ня проста канкурэнцыя, – перасьцерагаў ён, – ня проста інфармацыйнае супорніцтва. Гэта – змаганьне ідэялёгіяў. Ня дай Бог прайграць у гэтым змаганьні: страцім самае сьвятое – дзяржаўны сувэрэнітэт, нацыянальную самабытнасьць беларускага народу, ягоны духовы стрыжань і маральную апору”. (Даклад на сэмінары..., 27 сакавіка 2003, ч. 5, с. 5.) Гэтак гаворыць палітычны каньюнктуршчык, які намагаецца спляжыць тую “нацыянальную самабытнасьць”, які высьмейвае беларускую мову, які пра беларусаў кажа: “это те же русские, только со знаком качества”.

Раздвоенасьць, шызафрэнія лукашэнкаўскай палітыкі ў дачыненьні да дзяржаўнасьці й ейнага культурнага зьместу ўсьцяж паглыбляецца. Тым часам як культурны зьмест дзяржаўнасьці, тая “нацыянальная самабытнасьць беларускага народу” падсякаецца ў корань, палітычны аспэкт дзяржаўнасьці замацоўваецца новай хваляй фразэалёгіі. Паказальнай у гэтым сэнсе сталася Лукашэнкава прамова перад пасламі РБ, якіх ён склікаў у ліпені сёлета. Мэтай кіраўніка дзяржавы было даць сваім дыпляматам асэнсаваньне прынцыпова новай міжнароднай сытуцыі ў Эўропе пасьля таго, як Эўрапейскі Зьвяз пашырыўся на ўсходзе аж да межаў Беларусі. “Хачу сёньня сказаць наўпрост і ўпэўнена, – заявіў Лукашэнка, – Беларусь ёсьць і будзе заставацца самастойнай у Эўропе і ў сьвеце. Сувэрэнітэт і незалежнасьць для нас не разьменная карта, а сьвятая, сталая каштоўнасьць. Яна належыць не прэзыдэнту і ня Ўраду. Яна належыць народу і дзяржаве. І мы павінны быць годныя гэтай каштоўнасьці”. ( — Выступление Президента РБ А. Г. Лукашенко «Внешняя политика РБ в новом мире», 7-29-04, с. 3.) Лукашэнка раптам пачаў гучэць, як беларускі нацыяналіст. Цытую: «Выбар, які нам звычайна спрабуюць навязаць як лёсавызначальны – Усход ці Захад? – гэта наагул ня выбар. Ня выбар для Беларусі! Гэта фальшывая дылема. Мы выбіраем ня Ўсход і Захад або Ўсход ці Захад – мы выбіраем Беларусь». (Тамсама.)

Адзін зь незалежных камэнтатараў беларускае палітычнае сцэны, Валеры Карбалевіч, гэтак абагульніў Лукашэнкава выступленьне перад сваімі дыпляматамі: “Увесь зьмест дакладу сьведчыць аб тым, што праз 13 гадоў пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусь вылязае з-пад крыла двухгаловага арла і ўпяршыню спрабуе глядзець на сьвет уласнымі шырока адчыненымі вачыма”.

Гэтую аптымістычную ацэнку трэба ўспрымаць, аднак, ведаючы, што ў Беларусі сёньня пануе дыктатура аднаго чалавека і трэба памятаць характар гэтага чалавека. Некалі Станіслаў Шушкевіч трапна сказаў пра Лукашэнку: у яго сем пятніцаў на тыдзень, ён на наступны дзень не памятае таго, што сказаў учора. Лукашэнка – натура эмацыянальная й супярэчлівая, а Лукашэнка-палітык – прагны ўлады каньюнктуршчык. З другога боку, мы ведаем, што словы ўмеюць жыць сваім жыцьцём. Словы прэзыдэнта РБ пра ідэялёгію беларускай дзяржаўнасьці прарастаюць у галовах некаторых слухачоў на свой лад. Афіцыйная фразэалёгія пра незалежнасьць дае здаровыя канцэптуальныя плады, іншыя ад тых, на якія разьлічвае ўлада. У курсе абмеркаваньня Лукашэнкавай прамовы на ідэялягічным сэмінары 2003 году сярод розных водгукаў можна было пачуць і такое – пры чым на інтэрнэтаўскім прэзыдэнцкім сайце:

Нехта Грыгор'еў Дзімітры: “Ребята, да это же просто бред!!! Как можно искусственно создать национальную идею???... Мне стыдно, что я должен писать это на русском языке, а не на родной, ‘беларускай мове’! Так начните возрождать наш народ, ибо мертв тот народ, у которого нет языка! ... Отмените русский язык, как второй официальный, переведите ВСЕ школы на белорусскую программу! Да просто начните говорить на белорусском! Говорить везде! Дома, на работе, в общественном трансполорте, на улице!!! Вот вам идею, если вы так уж хотите ее получить!” ( — Идеология: мнения посетителей сайта / Декабрь 2003.)

На тым жа сайце хтосьці Ігар Шырко напісаў: “Беларуская ідэялёгія павінна стварацца цалкам на новым грунце. Беларусь – незалежная краіна, з новымі нацыянальнымі інтарэсамі і для яе не падыходзяць заклікі часоў СССР. Асноўная задача беларускай ідэялёгіі – гэта аб'яднаньне беларускай нацыі вакол сваёй славутай мінуўшчыны, вакол сваёй вялікай культуры дзеля забясьпечанай і заможнай будучыні...”. ( — Идеология: мнения посетителей сайта / Октябрь 2003.)

У разуменьні ідэйна-псыхалягічных працэсаў у грамадзтве, якое жыве пад дыктатарскім рэжымам, пад узьдзеяньнем інтэнсыўнай нутраной прапаганды, трэба ўлічваць, што афіцыйная фразэалёгія робіць вялікі ўплыў на сьветагляд людзей, асабліва моладзі. Мы гэта пабачылі на прыкладзе савецкага чалавека. Ідэялягічнае “прамываньне мазгоў” пад камунізмам, нягледзячы на ўсю крытыку яго з боку замежнай контрпрапаганды, пакінула глыбокія сьляды на сьведамасьці людзей. Гэтыя сьляды і сёньня відавочныя шмат у каго. Дык і ў сёньняй Беларусі афіцыйная прапаганда не застаецца бяз вынікаў. Але ў многіх яна не заглушае здаровага розуму, бо сучасныя беларусы жывуць ужо ў кантакце з вонкавым сьветам і бачаць, як рэалізуецца ў нармальных умовах нацыянальная ідэя, як у цывілізаваных народаў спалучаныя ў адно цэлае палітычная форма і культурны зьмест нацыянальнай дзяржаўнасьці.

Паводле розных крыніцаў, сярод маладых беларусаў расьце, хоць і памалу, лік асобаў, якія прагнуць быць пасьлядоўнымі ў сваім сьветаглядзе, у сваіх маральных варасьцях. Вось адзін з прыкладаў. У Беларускай праграме радыё “Свабода” мінулага аўторка (1 верасьня) выкладчыца ангельскае мовы расейскамоўнае школы ў Воршы засьведчыла: “Сёньня я магу сказаць з упэўненасьцю й адказнасьцю, што ў нас – добрая моладзь. Яна патроху-патроху, але выбіраецца з павуціньня савецкасьці. Але гэта – паўтаруся – адразу ня робіцца. Гэта – доўгая справа. Зрухі відочныя. Вось было тэставаньне па беларускай і рускай мовах – на выбар. Здавалася-б, руская мова пануе ўсюды, то й будуць выбіраць яе... Не. Значная частка вучняў сьвядома выбірае беларускую мову, і яны ведаюць яе, і імкнуцца ведаць добра, хаця гэта й складаней у рускамоўнай школе...”

У сучасным сьвеце, у якім дзяржаўнасьць сталася паказьнікам найвышэйшай ступені разьвіцьця грамадзтва, факт існаваньня фармальна незалежнай РБ спараджае йі стымулюе незалежніцкую псыхалёгію, выклікае жаданьне быць роўнымі зь іншымі дзяржаўнымі народамі, прыводзіць грамадзянаў да дзеяньняў на карысьць свае дзяржавы. Нават некаторыя расейскамоўныя дзеячы палітыкі й культуры выказваюцца за захаваньне незалежнасьці Беларусі. Дачка славутага бацькі, камуністка Натальля Машэрава заяўляе, што “хто-б ні стаяў на чале Беларусі, наша краіна застанецца незалежнай”. Рэктару зачыненага нядаўна Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту Анатолю Міхайлаву слухач Беларускай параграмы радыё “Свабода” задаў пытаньне: “Спадар Міхайлаў, Вы бачыце Беларусь нацыянальнай дзяржавай, ці для Вас гэта проста тэрытарыяльная адзінка, ‘другая Расея’?” Адказ Міхайлава: “Я лічу, што даўно надышоў час перайсьці ад дэкларацыяў наконт статусу і характару дзяржаўнасьці Беларусі да канкрэтнай, напружанай працы, якая зробіць яе магчымай. Стварэньне ЭГУ, які спрыяў фармаваньню мысьленьня новага пакаленьня, і ёсьць, я лічу, неабходны элемэнт гэтай працы». (Беларуская прагарама РС, 10/08/2004 16:25)

Такія выказваньні, як у Машэравай і Міхайлава, людзей расейскай культуры, трэба ацэньваць у сьвятле ўсё больш праблематычнае беларуска-расійскае інтэграцыі. Пасьля трынаццаці гадоў незалежнасьці РБ імпэрскія апэтыты расейцаў паступова прытупляюцца. Не апошні па сваім узьдзеяньні ўплыў на гэтае прытупленьне маюць заходнія дзяржавы, у добрых дачыненьнях зь якімі хацела-б быць Масква. У кожным выпадку, расейскі Фонд “Грамадзкая думка” апублікаваў у канцы жніўня сёлета вынікі сацыялягічнага апытаньня ў Расеі на тэму беларуска-расейскае інтэграцыі. Вынікі паказалі, што лік расіянаў, якія спадзяюцца на аб'яднаньне Расеі й Беларусі ў адну дзяржаву, паступова меншае. 37% апытаных мяркуюць, што аб'яднаньне адбудзецца, 36% упэўненыя, што такога ня здарыцца. Паказальна аднак тое, што за апошні год тых, хто не прадбачыць расійска-беларускай інтэграцыі пабольшала на 10%. Беларускае прэсавае агенцтва, БелаПан, падало вестку пра вынікі апытаньня пад загалоўкам “Расеі цяжка разьвітацца зь імпэрскім духам. А мы прывыкаем да незалежнасьці”. (Кирилл Позняк. России трудно расстаться с имперским духом. А мы привыкаем к независимости. Интернет-газета БелаПан, 27.08.04)

Дык які адказ на спачатнае пытаньне: беларуская дзяржаўнасьць – замацоўваецца яна ці слабее? Адказ такі: замацоўваецца інстытуцыйна; факт існаваньня дзяржавы заглыбляецца ў сьведамасьці палітычнай эліты й маладога пакаленьня, умацоўваецца ў міжнароднай сфэры. І разам з тым дзяржаўнасьць слабее сваім нацыянальна-культурным зьместам, у тым ліку беларускай мовай. Сучасная РБ – дзяржава анамальная: форма свая, зьмест у вялікай меры чужы. У яблыку беларускай дзяржаўнасьці сядзіць расейскі чарвяк. У гістарычнай пэрспэктыве ўсё гэта пагражае зьвесьці нацыянальную дзяржаўнасьць да зьявы пераходнае, якая можа быць заменена радыкальна іншай формай. Таму мы стаім перад заданьнем: пашыраць і паглыбляць у нашым грамадзтве разуменьне, што якар беларускай дзяржаўнасьці, ейная трываласьць і росквіт заключаюцца ў вы-

*Працяг на бачыне 8*

## Нашая фанатэка Музычнае bela-italiano ад Вайцюшкевіча

*"Бывайце здаровы!" (супольны праект), Мн., 2004, "Felix-Italia srl".*



Старт гэтага супольнага праекту быў ня горшы за які-небудзь "Народны альбом" або "Сьвяты вечар-2000", але выклікана гэта было пэўнай сымбалічнай выпадковасьцю: першы тыраж публіка ўбачыла на аншлягавым канцэрце Зьміцера Вайцюшкевіча ў травені 2004 году, які быў прысьвечаны юбілею знакамітага паэта-песеньніка Адама Русака і называўся, натуральна, таксама "Бывайце здаровы!".

Аднак, дыск прысьвечаны не паэзіі А. Русака, а беларуска-італьянскім стасункам, але "Бывайце здаровы!" для італьянцаў, як для нас "Felicita" або "Bella ciao". Карацей кажучы, вельмі зразумелы песенны сымболь незнаёмай краіны. Вось выдаўцы, Тацьцяна й Алег Марозы – супрацоўнікі беларускай філіі італьянскай фірмы "Felix ", і вырашылі гэтым дыскам зблізіць два эўрапейскіх народы, якія спазналіся, як зазвычай, на агульным разуменьні бяды (у дадзеным выпадку Чарнобыльскай).

Таму і атрымалася тут, што "Бывайце здаровы!" гучыць ня толькі на беларускай мове, але і на італьянскай. А "Bella ciao" (вы яе ведаеце, гэта пра партызанаў, якія "о бэла чао, бэла чао, бэла чао, чао, чао...") перакладзена Алесем Камоцкім на беларускую мову.

Камоцкаму тут увогуле пашанцавала, бо і ягоны тэкст "Іншым часам" з альбома З. Вайцюшкевіча "Паравіны году", загучаў па-італьянску ў тым-жа выкананьні. Цяпер ён называецца "Il tempo stagliato" (пераклад А. Мароза).

Вайцюшкевіча ў гэтым альбоме адсоткаў 70, таму ня дзіўна, што ягоныя фэны якраз і ўспрынялі навінку як уласную рэліквію. Дый дзе яшчэ яны знойдуць калярытныя італьянскія "Il passatore", "Romagna mia" з пазнавальным настальгічным голасам ды яшчэ на роднай беларускай мове.

Праўда, супольны праект – гэта ўсё-ж ня сольнік, але кампаньёны Тодара патрафілі зрабіць тое самае – беларусізаваць італьянскія песьні або італьянцам ўставіць трывалае ўсьведамленьне беларушчыны. Алесь Памідораў, напрыклад, з дапамогай А. Камоцкага сягнуў аж да фолькавага "La Balera" пра "чароўны танец з адзінай у сьвеце", а Сяржук Верамейчык у сваёй песьні "Сьпяваць можа кожны" нагадаў, што нават папулярныя гіты Барыса Грабеншчыкава надзёрганыя з твораў Франчэска да Мілана і Ёгана Себасьцьянавіча Баха. Цяпер яны загучалі ў беларускім кантэксьце.

Віктар Шалкевіч прыдаўся гэтай кампаніі своеасаблівай інтэрпрэтацыяй таго самага Адама Русака ("Бывайце здаровы, жывіце багата / А мы ад'язджаем у Злучаны Штаты"), а Вераніка Круглова (зноўжа з Тодарам) – вяртаньнем у родныя смаргонскія пенаты аўтара славутага палянэзу "Разьвітаньне з радзімай".

У Лявона Вольскага ў "Нашай фэлічыце" італьянская тэма гучыць яўна парадыйна (нават кампазытар П. Чыроза сьведчыць хіба аб Печані Цырозе), але гэта адэкватная даважка да шалкевічаўскага "Смутнага беларускага блюзу".

Удала ўпісваюцца ў гэты італьяна-беларускі застольны настрой творы гуртоў "Ліцьвіны", "Стары Ольса" і нават паэзія У. Караткевіча ў інтэрпрэтацыі З. Вайцюшкевіча ("Гордыя сосны"). Атрымліваецца гэткая ідэальная атмасфэра хатняга сьвята.

Выдаўцам, праўда, яўна не хапала элемэнтарнага досьведу падрыхтоўкі такіх выданьняў, з-за чаго, скажам, італьянец доўга й марна будзе шукаць, дзе тут "Ліцьвіны", дзе "Стары Ольса", а пра "Крамбамбулю" ўвогуле наўрад ці здагадаецца. А для нас...

Мы усё-ж добра ведаем сваіх куміраў, дый буклет з тэкстамі растлумачыць усё прызабытае. Для мяне асабіста незразумелым засталося толькі прозьвішча Залескі, вынесенае на вокладку побач з імёнамі Вольскага, Шалкевіча, Тодара ды іншых. Вось і думаю, ці не С. Верамейчык гэта, які песеньку сьпявае, а на вокладцы няма? Але з такімі здагадкамі ня варта лезьці на эўрапейскі рынак. Усё павінна выразна чытацца без даведнікаў.

Але вось ён, дыск, які прыемна паслухаць у сяброўскай кампаніі. І нават мастацкая аздоба (Дар'я Чарняўская), здаецца, падкрэсьлівае ня рознасьць, а агульныя рысы двух народаў. Бо я сам, бываючы ў Рыме, вельмі часта знаходзіў у такіх утульных старых закутках Вечнага Горада абрысы новых менскіх дворыкаў.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

**Каб замовіць гэты CD поштаю дашліце $12 на адрас рэдакцыі "Беларуса".**

## Даклад Я. Запрудніка

*Працяг з бачыны 7*

вучэньні й разуменьні свайго апрычонага гістарычнага шляху, свае духовае самабытнасьці, унікальнасьці беларускага культурна-цывілізацыйнага кампанэнту як часткі сусьветнай культуры. Трываласьць беларускай дзяржаўнасьці будзе таксама залежаць ад высокаякаснай культурнай творчасьці на народнай глебе, ад прыношаньня ў сусьветную культурную скарбніцу нашага ўнікальнага жыцьцёвага дазнаньня ды мірнага бачаньня сьвету, як выніку Беларускага Гістарычнага Шляху.

Разам з пытаньнем "Выжыве ці ня выжыве беларуская дзяржава?" трэба адказаць і на пытаньне: "Што мы ў замежжы можам зрабіць, каб яна выжыла ды замацавалася сваім нацыянальным зьместам?"

Назавем тут наступныя заданьні:

1. Падтрымваць усімі сродкамі дзейнасьць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ды цікавіцца бесьперапынна падзеямі на Бацькаўшчыне.

2. Трымаць актыўнае сяброўства і спрыяць далучэньню новых сяброў да такіх нашых арганізацыяў, як Згуртаваньне Беларусаў Канады, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

3. Падпісвацца й даваць ахвяраваньні на нашыя друкаваныя органы: газэты "Беларускае Слова", "Беларус", "Беларускі Дайджэст", часапісы "Запісы БІНіМ" і "Belarusian Review".

4. Падтрымваць матар'яльна беларускія выданьні й беларускамоўнае школьніцтва ў Беларусі.

5. Запрашаць у нашыя грамадзкія асяродкі суродзічаў, што цяпер прыбываюць зь Беларусі сюды на пасяленьне.

6. Трымаць лучнасьць з палітычнымі партыямі Канады й Злучаных Штатаў, з заканадаўцамі і ўрадаўцамі месцаў нашага пасяленьня.

Дзякую за ўвагу.

Жыве Беларусь!



**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: ***baza-belarus.org***

Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published monthly by
***Belsrusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***

ISSN 1054-9455

Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.

## Віншаваньне ТБМ

Вельмі шаноўны спадар Клакоцкі!

Грамадзкае аб'яднаньне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" шчыра віншуе Вас і ў Вашай асобе Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне з выхадам у свет 500-га нумару газэты "Беларус", якая лучыць нашых суайчыньнікаў з Бацькаўшчынай.

Дзякуючы Вашаму выданьню беларусы сьвету маюць магчымасьць штомесяц атрымліваць самую актуальную, самую надзённую, самую цікавую інфармацыю пра сваю Радзіму. "Беларус" карыстаецца папулярнасьцю і ў самой Беларусі.

Выказваем шчырую падзяку ўсім, хто шчыруе над газетай, зычым плёну, задавальненьня ад працы ды добрага здароўя.

***З павагай Старшыня ТБМ Алег ТРУСАЎ***

Сьвятар і парафіяльная рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брукліне на:
*401 Atlantic Ave*
запрашаюць вас на Божыя службы кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.

## Сустрэча ў Канадзе

*Заканчэньне з бачыны 5*

*Валянціна Шайчэнка – салістка фальклёрнай групы "Яваровы людзі";*

*Сяржук Сокалаў-Воюш – ЗША - вядомы бард і паэт;*

*Жана і Уладзімер Шалькевічы – бальныя танцы;*

*Ліза Тапунова – 8 гадоў - з партнёрам (бальная пара).*

***Гурт "Яваровы людзі":***

*Кіраўнік – Віялета Кавалёва, Каміла і Дамініка Кавалёвы, Валянціна Шайчэнка, Аляксандра Саленік, Аліна Саленік, Аліна Ржэўская, Сьвятлана Ржэўская, Піліп Тананка, Алег Сталбуноў.*

*Пастаноўка па п'есе У. Галубка "Пісаравы імяніны":*

*Ірына Шарамет, Аляксандр Калечыц, Ірына Варабей, Вячаслаў Кавалёў, Аляксандра Саленік, Ігар Гліньнік, Станіслаў Паўловіч, Сяргей Яшко.*

*Мастакі:*

*Івонка Сурвілла, Пётр Шварцман, Паліна і Яна Клімавы, Аня і Саша Русецкія, Аляксей Гаўрыловіч, Надзя Шкуба, Варабей Ірына і сын Антось, Яўгеньня Шайчэнка, а. Зьміцер Башко.*

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Т. Бэрд | 125 |
| К. і Я. Вініцкія | 100 |
| В. Дубяга | 50 |
| М. Каранеўскі | 30 |
| В. Махнач | 30 |
| Ю. Стагановіч | 30 |
| П. Грыгальчык | 15 |

**Усім шчыры дзякуй!**